«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 45 (4605)

18 чэрвеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Не згубім «Народную Волю»!

Шаноўныя чытачы!

Паважаныя валанцёры!

Усе, хто можа ўзяць удзел у выратаванні «Народнай Волі»!

Наступіў час, калі лёс незалежнай газеты залежыць толькі ад Вас. Паколькі ўжо каторы месяц выданне не мае даходаў ад рэалізацыі праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», то рэдакцыя ў чарговы раз звяртаецца да Вас, дарагія прыхільнікі свабоднага слова, з просьбай: **дапамажыце**!

Толькі разам мы зможам уратаваць «Народную Волю». Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускай транскрыпцыі):

**1.Через ЕРИП:**
**СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.**
**2.Через БАНК:**
**ИЧУП «Народная Воля». 22030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,**
**Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск**
**УНП 100961759, ОКПО 37381505**

Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Хто трапіць пад новыя санкцыі?

*ЗША збіраюцца ўвесці новыя санкцыі супраць рэжыму ў Беларусі на наступным тыдні.*

Пра гэта падчас міжнароднай канферэнцыі па пытаннях бяспекі GLOBSEC заявіла намесніца дзяржсакратара ЗША ў палітычных пытаннях **Вікторыя Нуланд.**

*«Мы верым, што адзіны шлях, каб паважаць правы і выбар беларускіх людзей, – гэта правесці сапраўды празрыстыя і сумленныя выбары*, – заявіла чыноўніца. – *І цалкам зразумела, што містэр Лукашэнка баіцца зрабіць гэта. Як і Еўропа, мы ўжо ўвялі некаторыя санкцыі, і я думаю, што на наступным тыдні вы ўбачыце, што іх стане больш».*




Тым часам структуры ЕС таксама прынялі прынцыповае рашэнне аб увядзенні сектаральных эканамічных санкцый, над якімі ў апошні месяц працавалі тэхнічныя эксперты і юрысты.

*«Аб гэтым будзе абвешчана на Савеце міністраў замежных спраў ЕС у панядзелак, 21 чэрвеня*, – паведаміў у сваім тэлеграм-канале грамадскі дзеяч і заснавальнік «Свабоднага тэатра» **Мікалай Халезін**. – *Гэта не значыць, што сектаральныя санкцыі будуць прыняты ў гэты дзень – будуць толькі агучаны напрамкі, якія трапяць пад санкцыі. На сённяшні дзень эксперты распрацоўвалі тры асноўныя напрамкі беларускай эканомікі: фінансавая і банкаўская сфера; нафтавы і газавы сектары; галіна вытворчасці і рэалізацыі угнаенняў. Дакладны спіс прадпрыемстваў, якія могуць апынуцца пад санкцыямі, будзе абнародаваны пазней – у дату, усталяваную кіраўніцтвам ЕС».*

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

## Ці акажуць Андрэю Пачобуту кваліфікаваную медыцынскую дапамогу?

Нагадаем, што 10 сакавіка гэтага года сілавікі завялі крымінальную справу за правядзенне імпрэзы ў польскай сацыяльнай школе скаўтаў імя Рамуальда Траўгута ў Брэсце. Тады затрымалі сузаснавальніка школы, 43-гадовага брэстчаніна і дырэктара **Ганну Панішаву**. Пазней стала вядома аб ператрусах у Лідзе, Ваўкавыску і затрыманнях **Ірэны Бярнацкай** і **Марыны Цішкоўскай.**



23 сакавіка ў Гродне была затрымана кіраўніца не прызнанага ўладамі Саюза палякаў **Анжаліка Борыс**, а яшчэ праз два дні – журналіст і актывіст гэтага ж саюза **Андрэй Пачобут**.

Яны былі затрыманы ў межах крымінальнай справы паводле ч.3 арт.130 «Распальванне расавай, нацыянальнай варожасці». Паводле гэтага артыкула абвінавачанаму можа пагражаць ад 5 да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Пазней Ірэну Бярнацкую, Марыю Цішкоўскую і Ганну Панішаву вывезлі з СІЗА ў Польшчу, а Андрэй Пачобут і Анжаліка Борыс засталіся ў СІЗА.

– Мне стала вядома, што Андрэй захварэў на каранавірус, – кажа **Аксана Пачобут**, жонка вязня. – Больш падрабязнай інфармацыі няма.

Я тэлефанавала следчаму, каб ён, магчыма, пасадзейнічаў аказанню мужу медыцынскай дапамогі, але ён адказаў, што ў гэтым плане ні на што не ўплывае. Маўляў, трэба звяртацца да адміністрацыі жодзінскага ізалятара, дзе ўтрымліваецца Андрэй. У выніку склалі хадайніцтва аб аказанні медыцынскай дапамогі.

**– Калі Андрэй захварэў?**

– Дакладна пра гэта, відаць, ніхто не ведае. Бо яшчэ ў той час, калі муж быў у СІЗА на Валадарскага, ён скардзіўся на дрэннае самаадчуванне. А з Жодзіна паведаміў, што на пачатку гэтага месяца пачаў адчуваць слабасць, сарваўся сардэчны рытм, а затым даведаўся, што ў яго яшчэ і каранавірус.

Для Андрэя гэта вельмі небяспечна, бо ў яго шмат хвароб і можа быць ускладненне. У мужа пастаянна збіваецца сардэчны рытм, а калі спякота, то гэта наогул вялікая праблема. Акрамя таго, у яго варыкоз, была нават запланавана аперацыя. А каранавірус, як вядома, таксама ўздзейнічае на сасуды.

Таму ў такой сітуацыі патрэбны кваліфікаваны медыцынскі дагляд, нават шпіталізацыя.

Учора Андрэю перадалі лекі, але нават не ведаю, ці ёсць у гэтым сэнс, бо сітуацыя са станам здароўя можа змяняцца штодзень, і тыя лекі, якія патрэбны зараз, магчыма, заўтра ужо не варта прымаць. Яшчэ раз кажу: мужу патрэбна кваліфікаваная медыцынская дапамога. Ці акажуць яе? Гэта для мяне адкрытае пытанне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЫМ ЧАСАМ

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» накіравала ў Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства аховы здароўя, Дэпартамент выканання пакаранняў і яго структурныя падраздзяленні – упраўленне па Мінску і Мінскай вобласці, турму №8 у Жодзіне, дзе ўтрымліваецца журналіст, зварот з просьбай шпіталізаваць Андрэя Пачобута.

*«СМІ і родныя Андрэя паведамляюць, што ён захварэў на COVID-19, але працягвае знаходзіцца ў перапоўненай камеры з 12 іншымі падследнымі*, – гаворыцца ў звароце. – *Просім неадкладна шпіталізаваць Андрэя Пачобута і забяспечыць яму неабходную медыцынскую дапамогу.*

*Звяртаем увагу на абсалютную неадпаведнасць самым мінімальным медыцынскім і прававым патрабаванням умоў утрымання ў следчых ізалятарах асоб, віна якіх нават не ўстаноўлена судом. Гэта яшчэ больш недапушчальна ў перыяд пандэміі, паколькі падрываецца здароўе людзей, ставіцца пад пагрозу іх жыццё».*

100 РАДКОЎ



**Міхася СКОБЛЫ**

## КАТАВАЛЬНЯ, праз якую прайшлі Анатоль Лябедзька і тысячы іншых беларусаў

Пабачыўшы Анатоля Лябедзьку пасля месяца зняволення на Акрэсціна, я не адразу яго пазнаў. Экс-старшыня АГП выглядаў як з крыжа зняты. Спакутаваны твар, нявыспаныя патухлыя вочы, даўно не голенае шчаціннe, рэзка пазначаныя зморшчыны – як быццам чалавек не пасля адміністрацыйных сутак з ізалятара часовага ўтрымання выйшаў, а адбыўшы год катаргі ў якім-небудзь даўно замежным нерчынскім рудніку.

Зразумела, што ІЧУ не курорт, і трыццаць сутак – тэрмін сур'ёзны, але ж каб да такога стану давесці…

Аказалася, стан мог быць яшчэ горшы. Бо тое, што вырабляюць з палітычнымі зняволенымі ў вязніцы на Акрэсціна, можна назваць толькі адным словам – катаванні. Анатоль Лябедзька – сядзелец са стажам, чалавек бывалы і загартаваны, але і ён быў агаломшаны бесчалавечным стаўленнем тамтэйшых службоўцаў да людзей, чыя віна, вобразна кажучы, высмактана з пальцаў функцыянераў у судзейскіх мантыях.

Скажам, той жа Лябедзька атрымаў свае 30 сутак толькі за тое, што прыйшоў пад будынак суда Кастрычніцкага раёна Мінска, дзе ў той дзень разглядалася «студэнцкая справа», таксама шытая белымі ніткамі. Прыйшоў не суд той граміць, не ў пракурора з рагаткі страляць, не «суддзю на мыла!» крычаць, а – проста моўчкі паспачуваць маладзёнам. І ў выніку паехаў у каталажку.

Нездарма ў народзе месцы часовага абмежавання волі называюць гэтым словам, у якім на першым месцы чуецца «кат». Вязніцу на Акрэсціна таксама можна так называць. Бо абрэвіятура ІЧУ (ИВС) нейкая невыразная. А вось каталажка на Акрэсціна, ці, яшчэ лепш, катавальня, – самае тое.

Паводле сведчання Анатоля Лябедзькі, у акрэсцінскай каталажцы адбываецца *«штодзённае парушэнне Канстытуцыі»*. Ну, да гэтага беларусы нібы і прывыклі – яшчэ з часоў, калі Якуб Колас напісаў свае знакамітыя радкі: *«Канстытуцыю далі, / Адчынілі дзверы, / І… ў астрог нас павялі, / І таўкуць без меры»*. Дык на тое і царскія сатрапы ў імперыі, каб бязмерна таўчы. А як «таўкуць» свае – у «сильной и процветающей»?

Напіхваюць вязняў, як селядцоў у бочку, – у чатырохмясцовыя камеры па 15–16 чалавек. Пры гэтым вокны (калі яны ўвогуле ёсць) наглуха зачынены, а «кармушку» ў дзвярах для хоць нейкага доступу паветра ахоўнікі могуць адкрыць на гадзінку-другую, пад настрой. А могуць і не адкрыць. Скажыце, чым не газавая камера? Таксама ж катаванне ўдушшам.

Вязням не выдаюць ні матрацаў, ні падушак – яны мусяць спаць, застуджваючы ныркі, на голых жалезных нарах і проста на бетоннай падлозе, прымасціўшы галаву на парашу. Трапіў чалавек у каталажку здаровым – выйдзе хворым. Прытым лекі ад сваякоў да вязняў звычайна не даходзяць. Гэта проста катаванне ці эксперымент на жывучасць у духу фашысцкага доктара Менгеле? Можа, Міжнародны Чырвоны Крыж адкажа?

Шмоны палітычным наладжваюць пяць разоў на суткі – два з іх спецыяльна ўночы, каб вязні не змаглі паспаць. Такім чынам у наяўнасці катаванні бяссоннем, а аднымі імі чалавека можна давесці да вар'яцтва.

Паводле сведчанняў былых сядзельцаў, ёсць там і адмысловая камера з гукаізаляцыяй, дзе ахоўнікі з садысцкімі схільнасцямі збіваюць тых, хто спрабуе хоць неяк пратэставаць...

Самае жудаснае, што мы з усім гэтым паступова звыкаемся. З тым, што ў цэнтры чысценькай і разамлелай пад летнім сонейкам беларускай сталіцы існуе замаскіраваны пад цывільную турму Асвенцым, дзе катуюць людзей, трымаюць іх у страшнай антысанітарыі, як жывёлу.

Мы ўжо амаль звыкліся з тым, што хтосьці чарговы выйдзе за акрэсцінскую браму і як пра нешта будзённае раскажа пра здзекі, учыненыя над ім ад імя дзяржавы. Падобныя прызнанні, на жаль, перасталі ўжо быць сенсацыяй. А людзі ўсё выходзяць і ўсё расказваюць, расказваюць… Мружачыся ад сонца, удыхаючы на поўныя грудзі паветра, нібы выбавіліся на Божы свет з апраметнай.

У гэтай апраметнай ёсць канкрэтны гаспадар – начальнік акрэсцінскага ІЧУ падпалкоўнік **Ігар Кенюх**. Гэта яго падначаленыя налятаюць з начнымі шмонамі, трэніруюцца, як на баксёрскіх грушах, на безабаронных людзях і запячатваюць каменныя мяшкі, каб зняволеныя задыхаліся.

Вы разумееце, падпалкоўнік, што пры вас звычайны ізалятар ператварыўся ў сапраўдны гестапаўскі засценак? Вы нават на волю сваіх ахвяр выпускаеце са здзекам – вывозіце на ўскраіну горада, каб дадаткова памучыць іх сваякоў перад варотамі каталажкі.

Давайце называць рэчы сваімі імёнамі: ахоўнікі – ахоўваюць, а катуюць – ка́ты. У даўнія часы кат красаваўся на эшафоце ў спецуборы – чырвонай кашулі і чорнай масцы. Можа быць, вам і вашым падначаленым таксама варта прымераць падобную ўніформу? Каб адразу быў відаць род заняткаў…

Калі ўжо спыніцца калясніца дзяржаўнага тэрору? – штодня гучыць над краінай пытанне, на якое ў мяне няма адказу. Але я цвёрда ведаю, што калясніца тая загрукаціць яшчэ мацней і страшней, калі ўсе мы звыкнемся з тым бясчынствам, якое вытвараюць з палітзняволенымі ў беларускіх турмах. Не дай Божа прывыкнуць да Асвенцыма…

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Сергей Сидорский не продает квартиру в Гомеле

## У бывшего премьер-министра ее там просто нет



На некоторых сайтах недвижимости в апреле этого года появилось объявление о продаже двухуровневых апартаментов в центре Гомеля. Объявление на первый взгляд самое обычное, подобных на разных профильных сайтах встречается немало. Общая площадь жилья – 220 квадратных метров, две ванные комнаты, джакузи, четыре лоджии, деревянная лестница на второй этаж. Вначале квартиру выставили на продажу за 270 тысяч долларов, но потом цену снизили до 240 тысяч.

Однако на днях новость о продаже квартиры разлетелась не только по сайтам недвижимости, но и по информационным порталам: кто-то запустил слух, что квартира раньше якобы принадлежала бывшему премьер-министру **Сергею Сидорскому**, правда, жил он там недолго и, как только получил назначение в Минск, сразу ее и продал.

Информация об этом дошла и до самого Сидорского. Мягко говоря, он был очень удивлен. Потому что квартиры в Гомеле на улице Крестьянской у бывшего премьер-министра нет. И никогда не было: семья Сидорского в Гомеле жила на Сельмаше и на Волотовской.

Но кто запустил слух о том, что продается недвижимость влиятельного чиновника?

«Народная Воля» попыталась прояснить ситуацию.

### Московский след

В процессе экспресс-расследования всплыла другая информация: квартира может принадлежать экс-гендиректору ОАО «Гомельобои» **Владимиру Дмитриеву**. Он уже много лет живет в Москве, может, действительно дал объявление о продаже своей гомельской квартиры?

*– Это неправда*, – ответил Владимир Владимирович. – *В Гомеле есть квартира моей покойной тещи, она перешла по наследству моей жене. Но жилье находится не на улице Крестьянской, а на проспекте Ленина. В квартире моей тещи не пять комнат, и там нет джакузи. Так что это какой-то непонятный звон, какая-то просто абсурдная новость!*

Владимир Дмитриев переехал в Москву после того, как стал фигурантом довольно громкого уголовного дела, за исходом которого следили многие хозяйственники страны: Дмитриева обвиняли в том, что на его предприятии неверно исполнялся закон об НДС. Чем все закончилось?

*– Ну чем могло закончиться дело, если оно было полностью надуманное?* – говорит Владимир Дмитриев. – *Даже тем, кто меня под это дело подводил, самим стыдно было. Из трех статей мне оставили одну и в конечном итоге подвели под амнистию, и на этом всё закончилось.*

*Примерно в то время я и продал квартиру в Гомеле, которая мне принадлежала, лет 15 назад это было. Я ведь уже 16 лет живу в России и в Беларуси бываю очень редко.*

### Что говорит продавец

Так кому все-таки принадлежит квартира, из-за которой разгорелся сыр-бор в интернете?

«Народная Воля» связалась с продавцом Юрием, чей телефон указан в объявлении о продажи квартиры.

**– Вы продаете квартиру как частное лицо или как агентство?**

– Как частное лицо.

**– Цена 240 тысяч долларов, верно?**

– Было 270 тысяч, снизили сейчас до 250. Но в некоторых рекламках есть и 240.

**– А вы владелец квартиры?**

– Конкретно не я в техпаспорте.

**– А кто? Вы в курсе, что на некоторых сайтах пишут, что квартира принадлежит одному из бывших топовых чиновников? То ли Дмитриеву, то ли бывшему премьер-министру…**

– Вы какую-то ерунду несете…

**– Я журналист, работаю в газете «Народная Воля» и хотела бы переговорить с владельцем и выяснить, кому принадлежит квартира.**

– Все, я кладу трубку…

На следующий день после этого разговора уже наш гомельский корреспондент снова связался с продавцом квартиры, хотел всё-таки взглянуть на техпаспорт, однако из этого ничего не вышло.

А молва о том, что квартира принадлежит Сидорскому, по-прежнему не утихала. «*В Гомеле по рекордной стоимости выставили на продажу квартиру Сидорского*», – кричали заголовки на некоторых сайтах. Но продавец, казалось, никак не реагировал на происходящее, будто эта история его вообще не касалась. Хотя, по идее, должен был. Тем более что бывшего премьер-министра Беларуси никто не предупреждал, что он будет участником рекламной кампании по продаже чужой квартиры. Поэтому Сергей Сидорский и позвонил по номеру, который указал продавец в своем объявлении. Надо сказать, что этот звонок не на шутку взбудоражил продавца **Юрия Лекуновича**.

*– Я вообще не хочу делиться с вами никакой информацией, это всё клевета – та информация, которая гуляет по интернету, о том, что это квартира бывших чиновников, которые бегут с корабля и всё распродают*, – заявил он позже «Народной Воле». – *Лично мы продаем квартиру, я и моя жена. И как продавали ее, так и будем продавать. Это наша квартира, мы ее построили в 2001 году с нуля на условиях долевого участия, и мы ее единственные владельцы. Затем право собственности на квартиру по договору дарения перешло к моей матери. Данная квартира никогда не принадлежала Сергею Сергеевичу Сидорскому. Никому мы ее не продавали, никакие чиновники в ней не жили.*

*Я вообще собираюсь идти в милицию. Я вчера вышел вечером гулять с женой, и нам через одного все говорят: а вы видели посты на сайтах, в соцсетях? Кто-то выложил пост в соцсетях или где, который сразу подхватили. Но это не мы распространили информацию в интернете. Против нас это всё замутили или против кого-то другого – милиция разберется…*

### Кому это выгодно?

Сегодня в интернете много разной информации о жизни чиновников, бывших и действующих. Обсуждается буквально всё: личная жизнь, покупка машин, недвижимость, выкладываются в открытый доступ не только мобильные телефоны, но и паспортные данные…

С одной стороны, максимальная открытость (паспортные данные, конечно, не в счет) не так уж и плохо – больше доверия.

С другой… Не секрет, что фейковые новости иной раз не отличить от правды. Такие заметки, где перемешаны правда и ложь, встречаются как на провластных, так и на оппозиционных ресурсах. И расходятся они со скоростью коронавируса! Одна такая новость может запросто разрушить репутацию любого человека, неважно – чиновника или нет. Поэтому любую информацию нужно перепроверять, верифицировать, искать первоисточник. И, конечно, обязательно слушать, что говорят те, о ком идет речь, – информация должна быть из первых уст!

Сергей Сидорский – человек довольно открытый. Он и его семья вели и ведут публичный образ жизни, не скрываются от журналистов и доступны для комментариев. Все знают, где учились, как и где живут его дочери.

Сидорский в бытность премьер-министром находил время, чтобы, например, с женой, детьми и внуками сходить в театр. И делал это не раз в год, не для показухи, а регулярно. Это, кстати, многих удивляло. Потому что в чиновничьей среде это не было принято. А для Сидорского это норма, традиции семьи, нормальный образ жизни свободного и уверенного в себе человека.

При этом Сидорский всегда следил за своей репутацией. Возможно, именно поэтому его уважают и свои, и чужие. Был период, когда даже некоторые представители оппозиции говорили, что готовы поддержать успешного премьер-министра и хорошего управленца на президентских выборах, называли его «компромиссной фигурой». Правда, после этого очень быстро Сидорского отправили работать в Россию. Сам он, кстати, на тему президентских амбиций никогда не высказывался. Говорил, что его вопросы – это экономика.

Сегодня Сергея Сидорского нет в большой публичной политике. Летом 2018 года он перестал занимать пост министра по промышленности и агропромышленному комплексу Евразийской экономической комиссии. Сейчас экс-премьер работает в Евразийском банке развития. Но за его судьбой, карьерой и личной жизнью по-прежнему наблюдают и власть, и оппозиция. Мониторится всё: цитаты, визиты, фотографии…

Возможно, кому-то было выгодно, чтобы о Сергее Сидорском снова вспомнили, поэтому и появилась новость о продаже якобы его гомельской недвижимости по баснословной цене.

Вопрос: кому и зачем понадобилось выставлять Сидорского в невыгодном свете? И что это – политические игры или всё-таки просто недоразумение?

**Марина КОКТЫШ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# «Забралі са сцэны ў канцэртным касцюме»

*Кіраўніка хору «Унія» **Паўла Гонцу** затрымалі на працоўным месцы. Здарылася гэта 16 чэрвеня ў абед.*

«Затрымалі яго на сцэне, на рэпетыцыі канцэрта ў сцэнічным касцюме. Куды павезлі, ніхто не ведаў. Ва ўсіх РУУСах адказвалі, што яго няма.

Калі мы сказалі, што Паўлу трэба змяніць адзенне і вярнуць сцэнічны касцюм, нам адказалі, што кіраўніцтва ведае, дзе ён. Маўляў, выйдзе – верне», – *распавялі nn.by блізкія Паўла.*

*Цяпер кіраўнік хору знаходзіцца на Акрэсціна. Калі адбудзецца суд і па якім артыкуле, пакуль не вядома.*

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# «Это история любви, а не убеждений!»

*Отец задержанной россиянки Софии Сапеги обратился к Александру Лукашенко с просьбой помиловать его дочь. Он также пригласил Лукашенко на личную встречу.*

«*Александр Григорьевич, я прошу вас о милосердии*, – сказал отец Софии Сапеги в своем видеообращении. – *Хватит жестокости, в последнее время мир ею переполнен. Любой здравомыслящий человек понимает, что София оказалась не в том месте и не с тем человеком. До встречи с Романом Протасевичем она была обычной девушкой. Во время протестов в Минске она была в Литве, и если что-то она и делала в тот период – это точно история любви, а не убеждений. Она помогала Роману в его работе….*

*Александр Григорьевич, как отец отца я прошу о личной встрече и готов привести все необходимые гарантии того, что моя дочь более не будет привлечена к противоправным действиям. В этом же обращении я прошу губернатора Приморского края содействовать в организации личной встречи с президентом Лукашенко, возможно, мне удастся убедить его помиловать мою дочь. Не ломайте ей судьбу, она просто маленькая девочка, которая только начинает жить*».

Напомним, что, по словам председателя Следственного комитета **Дмитрия Гора**, «*София Сапега была задержана по подозрению в совершении преступления, предусмотренного ст.342 (участие в массовых беспорядках) УК. Практически сразу она была привлечена в качестве обвиняемой по другому уголовному делу, которое расследуется по ч.3 ст.130 – это разжигание социальной вражды и розни*».

София Сапега, как и журналист **Роман Протасевич**, находится в СИЗО КГБ.

Андрей Сапега уточнил, что сейчас интересы Софии представляют два юриста. Они дали подписку о неразглашении, а делу присвоили гриф секретности, поэтому информация, которую получает семья, обрывочная и крайне скудная.

**Галина РУТ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Надзея ЗЕЛЯНКОВА: «Мужу патрэбна аперацыя…»

*Жонка бізнесмена **Аляксандра Васілевіча** распавяла «Народнай Волі» пра апошнія навіны ад мужа.*



Амаль дзесяць месяцаў знаходзіцца за кратамі вядомы беларускі бізнесмен Аляксандр Васілевіч – сазаснавальнік рэкламнага холдынга Vondel/Hepta, сайтаў kyky.org і the village.me, а таксама галерэі «Ў».

**Аляксандра Васілевіча** мінулым летам затрымлівалі двойчы. Першы раз – калі прыйшоў у КДБ падаць хадайніцтва аб змене меры стрымання для прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду **Віктара Бабарыкі**. Тады паход у афіцыйную ўстанову закончыўся судом, Васілевічу далі 14 сутак – за тое, што ён нібыта «*актыўна ўдзельнічаў у несанкцыянаваным мітынгу*» і крычаў «Свабоду Бабарыку!».

Аляксандр з пратаколам не пагадзіўся. Адбыў адміністрацыйны арышт у ізалятары, выйшаў на волю і зноў быў затрыманы 27 жніўня прадстаўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю.

4 верасня Васілевічу было прад'яўлена абвінавачанне. З-за ўзятай у адваката падпіскі аб невыдаванні матэрыялаў следства на дадзены момант не вядома, паводле якога артыкула Крымінальнага кодэкса яно прад'яўлена.

У якасці падазраванай па распачатай крымінальнай справе праходзіць і жонка Васілевіча – **Надзея Зелянкова**. Зараз Надзея з сям'ёй знаходзіцца ў Таліне. 2 снежня мінулага года ў іх нарадзілася дачка Уршуля.

– Паводле некаторай інфармацыі, 27 чэрвеня тэрмін знаходжання мужа пад вартай будзе працягнуты яшчэ на два месяцы, – кажа Надзея. – Такім чынам, год правядзе ў СІЗА, а далей перспектывы, відаць, такія ж, як і ў усіх асуджаных палітвязняў.

Пра суд пакуль наогул нічога не чуваць, таму не выключаю, што пратрымаюць у ізалятары могуць і 18 месяцаў.

**– З ліставаннем праблем няма?**

– З ізалятара лісты ідуць досыць добра, часам яны даходзяць літаральна за 3–4 дні. З волі ў СІЗА – могуць і тыдзень-два ісці.

**– Як здароўе Аляксандра пасля перанесенага каранавіруса?**

– Складана сказаць, бо там немагчыма прайсці нармальнае медыцынскае абследаванне. Ведаю, што ў Сашы бралі аналізы крыві і сказалі, што ўсё больш-менш добра. Муж яшчэ прасіў, каб зрабілі ультрагукавую дыягностыку, але з гэтай нагоды яму адказалі так: «Зробім праз тры гады, калі вернецца з дэкрэтнага адпачынку чалавек, які робіць такую дыягностыку».

На каранавірус муж хварэў у снежні, і зараз ён ужо вяртаецца да сваёй былой спартыўнай формы. Але ў СІЗА чалавеку, як ужо казала, цяжка даведацца пра ўсе наступствы хваробы, бо гэта ж не медыцынскі цэнтр.

Дакладна ведаю, што Сашу патрэбна аперацыя на назе, хаця яна і не тэрміновая. Рэабілітацыя без такой аперацыі немагчыма.

**– Вы па-ранейшаму жывяце з дзецьмі ў Таліне?**

– Так, у нашым жыцці таксама практычна нічога не змянілася. У старэйшай дачкі Адэлі зараз школьныя канікулы, малодшай Уршулі 2 чэрвеня споўнілася паўгода.

**– Бізнес-праекты Аляксандра працягваюць працаваць?**

– З рэкламным холдынгам усё ў парадку, агенцтвы працуюць. Сайты kyky.org і the-village.me, як вядома, заблакіраваны Міністэрствам інфармацыі ў Беларусі, але рэдакцыі таксама працягваюць працу. А вось **галерэя «Ў»** даўно закрылася.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.

ТЕМА ДНЯ

# Готовимся к войне?

*В последние дни некоторые высокопоставленные чиновники много говорят о войне. «Народная Воля» расспросила экспертов о том, что это может значить.*

Посещая 14 июня производственно-технический кластер «Устье» в Оршанском районе, А.Лукашенко высказал свое мнение о необходимости производства боеприпасов.

*«Кто гарантирует, что мы не будем воевать*? – цитирует его слова телеграм-канал «Пул Первого». – *Мир одурел вообще, война может вспыхнуть в любой момент в любой точке – не дай Бог у нас».*

*«Почему студентов и прочих не привлечь и не обучить стрелковым оружием пользоваться – собрать, разобрать автомат, стрельнуть?* – цитировала Лукашенко президентская пресс-служба. – *Чтобы умели пользоваться и чтобы не пришлось в тяжелые времена обучаться на поле боя».*

16 июня в Шклове, где с участием министра обороны и госсекретаря Совбеза обсуждались вопросы территориальной обороны, прозвучало: *«Председателям райисполкомов и облисполкомов надо научиться воевать».*

*«В случае конфликта каждый двор, каждый дом, глава семьи по крайней мере должны суметь защитить свою семью, себя и, естественно, все вместе ту землю, территорию, на которой они живут,* – заявил Лукашенко. – *Вот это будет всенародная защита».*

Что всё это может значить? Беларусь готовится к войне?

Военный эксперт, заведующий лабораторией в ГНПО «Оптика, оптоэлектроника и лазерная техника», автор популярного телеграм-канала о военной и информационной безопасности Беларуси **Егор Лебедок** полагает, что это нагнетание угрозы:

*– Речь не идет о том, что народ будет воевать. Это просто такая специфическая подача информации. Разговор о территориальных войсках, которых у нас 120.000 примерно – максимум до 300.000 резерв можно развернуть. Но преподносится это так, что чуть ли не вся страна может оказаться на грани войны и нужно быть готовыми к этому, ситуация тревожная.*

*Мне кажется, это обычная пиар-кампания по нагнетанию угрозы, не имеющая ничего общего с обороноспособностью. А Лукашенко в данном случае выступает как герой, защитник государства, спаситель. Тренировки и учения по территориальной обороне как шли лет пять назад, так и идут сейчас. Система территориальной обороны достаточно давно развивается, есть свои плюсы и минусы, но все эти заявления последних дней – это, на мой взгляд, информационное прикрытие реальной встречи по работе ВПК в условиях санкций.*

Бывший заместитель министра обороны Беларуси генерал-лейтенант **Владимир Усхопчик** считает, что холодная война в любой момент может стать горячей.

*– Лукашенко прав: территориальная оборона строилась у нас с распадом Советского Союза, а опыт территориальной обороны – он был еще до войны,* – говорит Владимир Никитович. – *Никто не говорит, что завтра будет война. Но территориальная оборона – в какой-то угрожаемый период будут охранять важные объекты, местные органы не должны быть в стороне. Председатель облисполкома должен понимать в этих вопросах и четко знать, сколько у него объектов, сколько мостов, складов, где лежит оружие, когда его нужно выдавать, когда проводить сборы мобилизационные и призывать мужиков до 60 лет. Шкловский район – это как пример только, все это делается и в других районах. В Генеральном штабе даже есть начальник штаба территориальной обороны, который отвечает за эти вопросы по всей республике – это генеральская должность. Государство всегда должно быть готово защитить свою территорию, свою родину, своих детей.*

*Есть ли сегодня конкретная угроза? Лично мое мнение, что холодная война сейчас превращается в горячую. Поэтому готовыми нужно быть ко всему.*

Майор запаса, член ЦК партии «Справедливый мир» **Сергей Возняк** считает, что сейчас не время раздавать народу автоматы.

*– Очень широко распространен опыт современной Эстонии, где есть Кайтселийт – добровольческое военизированное формирование, которое даже входит в состав Сил обороны Эстонии,* – говорит Сергей Возняк. – *Численность Кайтселийта официально превышает численность вооруженных сил. Предполагается, что если враг нападет, то все возьмут автоматы и будут защищать свой дом, свои улицы, свою страну. Ничего удивительного здесь нет. Человек пойдет защищать родину, если она к нему не повернулась спиной. Но! Для того чтобы это было реализовано на практике в какой-то критический момент, должно быть единство в обществе. В Эстонии, в принципе, есть национальный консенсус вокруг суверенитета, стратегического выбора – куда страна движется. А у нас?*

*Идея территориальной обороны – она не такая уж и наивная и совсем не глупая. Но в Беларуси, когда такой политический конфликт и общество очень разобщено, сейчас выдать мужикам автоматы… Скорее, они друг друга перестреляют, начав выяснять, кто «ябатька», а кто – нет. Вот и вся история…*

*А то, что сейчас говорят много о войне, – просто ничего другого конструктивного предложить не могут. Вот и апеллируют к прошлым подвигам. Милитаризация общества – такой известный пропагандистский прием, чтобы отвлечь внимание общества от социально-экономических проблем.*

**Марина КОКТЫШ.**

В ТЕМУ

### Андрей ДМИТРИЕВ, сопредседатель кампании «Говори правду»:

– Территориальная оборона – отличная идея, но только когда есть доверие между властью и обществом, и она должна быть направлена исключительно против внешнего врага. Иначе оружие, выданное для борьбы с «внутренним врагом», станет местной «Авророй» и начнет гражданскую войну.

З-ЗА КРАТАЎ



## Палітзняволенай Юліі Слуцкай не аддалі лекі, якія перадала дачка

*Юлія Слуцкая не атрымлівае частку пошты і лекі. Пра гэта распавяла яе дачка Аляксандра.*

Паводле яе слоў, у Юліі Слуцкай у зняволенні пачаліся праблемы са здароўем:

*– І са зрокам, і з кашлем. Плюс, мяркуючы па ўсім, у яе быў прыступ мігатлівай арытміі. Дыягназ паставіла мамін тэрапеўт, калі я апісала сімптомы, а турэмны доктар сказаў: не перажывайце, гэта магнітныя буры.*

Аляксандра кажа, што яны з маці пішуць адна адной лісты штодня. Аднак пошта амаль не даходзіць – за апошнія тыдні на волю дайшлі ўсяго два лісты ад заснавальніцы «Прэс-клуба».

Таксама Юлія Слуцкая не атрымала перадачу з медпрэпаратамі.

*«Мама праз адваката папрасіла перадаць ёй мазь, бо пад пазногцем пачалося запаленне або скула,* – цытуе «Салідарнасць» Аляксандру Слуцкую. – *Я, натуральна, перадала – у бліжэйшы дзень, калі дазволены медперадачы. Праз тыдзень адвакат прыйшоў да яе, і мама спыталася, чаму я не перадала мазь. Я пацікавілася ў жанчыны ў акенцы, ці магло быць такое, што прынялі, але не перадалі. Адказалі: маўляў, так, у нас запарка з фельчарам, многія хварэюць. Гэта значыць, лекі прымаюць, але не прыносяць».*

Па «справе Прэс-клуба» праходзіць і сын Юліі Слуцкай **Пётр**. Пра брата Аляксандра ведае, што ён сядзіць у перапоўненай камеры – разам з ім 23 чалавекі. Пры цяперашняй спёцы там складана захоўваць прадукты, бо яны хутка псуюцца.

ТЫМ ЧАСАМ

## Максім Знак рыхтуецца да суда

*Вядомы юрыст Максім Знак напісаў свайму бацьку, што мае намер зрабіць усё магчымае і немагчымае для абароны сваіх правоў.*

*«Ніхто не павінен мяне папракаць у тым, што я не выкарыстаў усе сродкі закона для абароны сваіх правоў,* – піша Максім. – *Можа, дарма, але мне адзначаць усё больш недахопаў і знаходзіць доказы прыносіць прафесійнае задавальненне».*

Бацька Максіма распавёў: у апошні час ён пісаў сыну, што чакаць станоўчых вынікаў ад судоў не даводзіцца. На яго думку, усе намаганні адвакатаў і сведак не маюць значэння, калі суд несумленны. Падобна на тое, што ў Максіма іншая пазіцыя. Нават у турме ён працягвае захоўваць аптымізм.

Максім Знак знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# «Адмовілі на падставе таго, што маем права...»

*Рабочаму ААТ «Гродна Азот» **Андрэю Піліпенку** не працягнулі кантракт, нягледзячы на тое, што на прадпрыемстве ён адпрацаваў 12 гадоў без заўваг і вымоў. У яго сям'я, двое непаўнагадовых дзяцей і пакуль няма іншай працы.*

### «Нават начальства цэха было здзіўлена...»

За некалькі апошніх тыдняў васьмі работнікам ААТ «Гродна Азот», якія з'яўляюцца сябрамі Беларускага незалежнага прафсаюза, адміністрацыя прадпрыемства адмовіла ў працягненні кантракта. Прычым гэта людзі з досведам, спецыялісты, якія адпрацавалі на заводзе дзесяць і больш гадоў.



Андрэю Піліпенку 40 гадоў. У свой час ён скончыў політэхнічны каледж па спецыяльнасці «тэхнік-электрык» і працаваў апаратчыкам падрыхтоўкі сыравіны паўфабрыкатаў. Справа, паводле яго слоў, не самая тэхналагічная, але апошнім часам рыхтаваўся пераходзіць на больш кваліфікаваную працу – апаратчыкам грануляцыі.

*– Чакаў, калі вызваліцца месца, усё ўжо было ўзгоднена з кіраўніцтвам цэха,* – распавядае Піліпенка. – *Кіраўніцтва цэха мне кантракт працягнула на пяць гадоў, а з заводакіравання прыйшла папера, што ў працягненні кантракта адмовілі.*

Андрэй згадвае, што ў кіраўніцтве цэха былі здзіўлены, яны нават палічылі, што ён сам сабраўся звальняцца альбо што гэта нейкая памылка. Калегі былі ў шоку і нават пачалі збіраць подпісы за адмену такога рашэння адміністрацыі.

Адмова ў працягненні кантракта падпісана намеснікам генеральнага дырэктара па бяспецы і кадрах **Алегам Жывушкам**.

*– Я хадзіў да яго на прыём,* – распавядае Андрэй. – *Цікавіўся, у чым прычына: можа, я не задавальняю як работнік, хаця ніякіх нараканняў з боку кіраўніцтва цэха на мяне не было? Сказаў, што рыхтуюся ісці на павышэнне, тлумачыў, што ў мяне двое непаўнагадовых дзяцей. А ён – мілы чалавек, паводзіць сябе інтэлігентна – адказаў: адмовілі на падставе таго, што маем права... І ніякіх тлумачэнняў.*

### «Думаю, прычынай стала сяброўства ў незалежным прафсаюзе»

Спадар Андрэй не хавае, што такое стаўленне кіраўніцтва прадпрыемства пакрыўдзіла яго, паколькі ён чэсна і без заўваг адпрацаваў на заводзе 12 гадоў, зрабіў пэўны ўнёсак у яго паспяховую дзейнасць.

*– І ніхто там не падумаў, што ў мяне малыя дзеці, што трэба плаціць крэдыт, што я планаваў жыццё сям'і, зыходзячы з таго, што працую на заводзе...* – з горыччу заўважае мой суразмоўца.

Адзінай магчымай прычынай непадаўжэння кантракта Піліпенка лічыць тое, што пасля леташніх выбараў ён, як і многія іншыя рабочыя, выйшаў з афіцыйнага прафсаюза і стаў членам Беларускага незалежнага прафсаюза. Дарэчы, тады незалежны прафсаюз на іх прадпрыемстве павялічыўся больш як на паўтысячы чалавек.

Пасля гэтага былі выпадкі, калі сябрам незалежнага прафсаюза прапаноўвалі вярнуцца ў лона афіцыйнага. Людзі адмаўляліся, і ў выніку ім кантракты працягвалі ўжо не на пяць гадоў, як гэта было раней, а толькі на адзін.

Паводле слоў Піліпенкі, афіцыйны прафкам яго цэха прапаноўваў яму вярнуцца ў свае шэрагі: тады, маўляў, мы паклапоцімся пра цябе.

*– Я калі выходзіў з гэтага прафсаюза, то раіўся ў сям'і, мы разумелі, што могуць быць наступствы,* – распавядае Андрэй. – *А таму я адразу адмовіўся. Надакучыў іх фармалізм, абыякавасць і тое, што паперка і начальства важней за справу і праўду. Хочацца быць ў ладу з самім сабой, са сваім сумленнем, бо без гэтага жыць яшчэ цяжэй. А працу нейкую знайду, проста сядзець не буду.*

Дарэчы, непасрэдна на працоўным месцы пасля змены прафсаюза Піліпенку ніхто не папракаў, ні кіраўніцтва цэха, ні калегі па працы, паколькі для іх заўсёды было галоўным тое, які ён работнік і як ставіцца да тых, з кім побач працуе.

### «Няўжо звольняць усіх членаў незалежнага прафсаюза?»

Піліпенка, адпрацаваўшы на заводзе 12 гадоў, добра разумее, наколькі адказная ў іх праца. У цэху кожная рабочая спецыяльнасць звязана з іншай, яны ўзаемадзейнічаюць з іншым цэхам, і гэта, маўляў, складае агульны арганізм, правілы працы якога парушаць ніяк нельга. Паводле яго слоў, многія ІТР-работнікі зараз падпісваюцца пад патрабаваннямі спыніць звальненне кваліфікаваных спецыялістаў, бо добра разумеюць магчымыя наступствы.

*– Няўжо звольняць усіх членаў незалежнага прафсаюза?!* – задаецца пытаннем рабочы. – *Уявіце, што на месца падрыхтаваных спецыялістаў прыйдуць маладыя людзі, якіх усяму трэба навучыць. А тут жа хімічная вытворчасць, яна можа быць небяспечнай, калі ёй пачнуць займацца непрафесіяналы.*

Са зменай генеральнага дырэктара, заўважае мой суразмоўцы, на прадпрыемстве прыкметна змянілася абстаноўка. Устанаўліваецца больш камер відэаназірання, больш частымі сталі праверкі, і калі раней супрацоўнікі аховы патрулявалі па перыметры тэрыторыю завода, кантралявалі прапускны рэжым, то зараз ходзяць і па цэхах, правяраюць людзей на працоўных месцах, па выхадных прызначаюцца дзяжурныя па заводзе.

*– Не скажу, што гэта нешта страшнае, паколькі вытворчасць у нас усё ж хімічная і заўсёды кантролю надавалася належная ўвага,* – заўважае Піліпенка. – *Але адметна, што сродкі ўкладаюцца ў такія метады, а не ў павышэнне прафесійнасці рабочага калектыву, ва ўкараненне новых, больш бяспечных і экалагічных, тэхналогій.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДРУГІ БОК

### Што гаворыць кіраўніцтва ААТ «Гродна-Азот»?



Дык усё ж такі чаму Андрэя Піліпенку звольнілі з прадпрыемства? За тлумачэннямі «Народная Воля» звярнулася да намесніка генеральнага дырэктара ААТ «Гродна Азот» па бяспецы і кадрах **Алега Жывушкі**, але размаўляць праз тэлефон ён адмовіўся.

Карэспандэнт «Народнай Волі» даслаў яму пытанні праз электронную пошту:

*«Пярвічная арганізацыя Беларускага незалежнага прафсаюза, якая існуе на вашым прадпрыемстве, звярнулася адразу ў некалькі інстанцый – канцэрн «Белнафтахім», Савет міністраў, Камітэт дзяржаўнага кантролю, пракуратуру – з просьбай «спыніць незаконнае звальненне рабочых з прадпрыемства»: Сяргея Міхайлавіча Ляпеша, Андрэя Мікалаевіча Піліпенкі, Сяргея Уладзіміравіча Козела. Усяго, паводле інфармацыі кіраўніцтва прафсаюза, паведамленні аб непрацягненні кантрактаў атрымалі восем членаў іх прафсаюза. Усе гэтыя людзі характарызуюцца як высокакласныя спецыялісты з досведам працы. Патлумачце, у чым, на ваш погляд, прычына непрацягнення кантрактаў з гэтымі кваліфікаванымі работнікамі? Ці звязваеце вы непрацягненне кантрактаў работнікам прадпрыемства з іх членствам у тым ці іншым прафсаюзе?»*

Мінула два тыдні, але адказу ад спадара Жывушкі «Народная Воля» так і не дачакалася…

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Заўтра рэй у нашых школах будзе весці гінеколаг

Адзін з прыўладных палітолагаў, выступаючы на дзяржаўным тэлебачанні, прапанаваў: падчас цэнтралізаванага тэсціравання цнатлівым дзяўчатам трэба дабаўляць балы, бо «калі ў Беларусі стане больш цнатлівіц, палепшыцца эканамічны стан. Да нас будуць ехаць з усяго свету, разумеючы, што іх дзіцёнак не пачне палавое жыццё ў 13 гадоў».

«Прыкарытны» палітолаг
Думаў зранку да начы.
І ад думак невясёлых
Хоць ты крычма закрычы.
Ён акрэсліваць павінны
І нахвальваць светлы шлях,
Эканоміка ж краіны,
Так сказаць, трашчыць па швах.
Думаў месяц, нават болей,
Засушыўшы клёпкі ўсе,
І дапяць нарэшце здолеў,
Што нам поспех прынясе.
Палітолаг гэты неяк
Трапіў на тэлеэкран,
Просты, быццам пяць капеек,
Беларусам выклаў план:
– Вось чаму так нехлямяжа
Нам жывецца дзень пры дні?
(Мы чакалі, што ён скажа,
І застылі ў цішыні.)
Бо з цнатлівасцю не густа,
А блудніц задужа шмат.
Бессаромная распуста
Ахапіла школьніц нат!
Спрэс адны акселераткі
Сёння ў школьнае гурме.
Не цікавяць іх заняткі –
Толькі секс адзін наўме,
І не дбаюць ні на ёту
Пра здароўе сям'ю.
Дык паслухайце пра цноту
Думку слушную маю.
Бы за пазухай у Бога
Заўтра жыцьме наш народ,
Як цнатлівіц будзе многа,
На якіх цяпер наўрод.
А чаму такую мэту
Варта мець для грамады?
Ледзь не ўсе краіны свету
Пазаійздросцяць нам тады:
Хочуць мець цнатлівых дзетак
На планеце ўсе бацькі.
І калі ў нас будзе гэтак,
Дык багатыя дзялкі
К нам прыедуць цэлай хеўрай,
Каб папасці ў рай зямны,
І све даляры, еўра
Прывязуць з сабой яны.
Не гучацьмуць здзекі-кпіны,
Што з грашыма справы дрэнь.
Эканоміка краіны
Зможа тут жа ўстаць з калень.
Так што выбраца з балота
І патрапіць на бальшак
Дапаможа толькі цнота!
– Заахвочваць будзем як
Тых, хто цноту ўсё-ткі стане
Берагчы да лепшых дзён? –
Ад вядучага пытанне
(Не хаваў усмешкі ён).
– Бачу бонус вельмі ўдалы
Для «нячэпаных нявест»:
Дабаўляць за цноту балы,
Як яны здавацьмуць тэст.
Калі голас мой пачуты
Будзе «ўверсе»,
Як адзін,
Можа быць, і інстытуты
Падтрымаюць мой пачын…
Палітолаг «пры карыце»
Мае пэўную вагу.
А цяпер, сябры, уявіце
(Як і я ўявіць магу),
Што было б у нашых школах.
Не прыдумаеш мудрэй:
Безумоўна, гінеколаг
На іспытах веў бы рэй,
Залатое меў бы слова.
Бо нашто вучыць прадмет?
Лепш наведаць паспяхова
Працэдурны кабінет…

***

Адмысловы палітолаг –
Не было такіх даўно!
Мабыць, сам ён дзевак голых
Толькі бачыў у кіно…

САЛІДАРНАСЦЬ

# Прывітанне вам ад Глафіры Жук!

*Перадаю вам словы ўдзячнасці за вашу працу, за тое, што вы застаяцеся з народам!*

*А таксама прывітанне ад вашай супрацоўніцы Глафіры Дзмітрыеўны Жук. Мне пашчасціла пазнаёміцца з гэтай прыемнай дзяўчынай – на жаль, у не самым прыемным месцы…*

*У яе ўсё добра (адносна добра), усе яе падтрымліваюць і дапамагаюць, там усе падтрымліваюць адзін аднаго...*

*Яна распавядала нам пра сваю працу, пра вашу цудоўную рэдакцыю, пра цудоўную жанчыну – памочніцу і правую руку галоўнага рэдактара...*

*Калі ласка, перадайце ўсім супрацоўнікам прывітанне і словы ўдзячнасці. А Глафіра, як мне здаецца, ужо нешта рыхтуе, разважае над новым матэрыялам!*

З удзячнасцю – **ваша чытачка Таццяна ЗАЯЦ.**

***

Нагадаем, што журналістка «Народнай Волі» **Глафіра Жук** атрымала 30 сутак адміністрацыйнага арышту. Да нядаўняга часу яна знаходзілася ў ізалятары на Акрэсціна. Але літаральна днямі ліст, які накіравалі Глафіры на адрас ізалятара, вярнуўся з пазнакай: *«Вернута установай, не ўтрымліваецца».* Хаця ўчора перадачу для яе прынялі.

Адвакат разам з Глафірай падалі скаргу на рашэнне суда, бо катэгарычна не згодны з тым, што журналістка, якая прыйшла да будынка суда, парушыла заканадаўства. Яна мела намер трапіць на судовы працэс па так званай справе студэнтаў, але ў залу суда яе не пусцілі. Скаргу Глафіры Жук не задаволілі.

Бацька Глафіры падлічыў, што яна павінна выйсці на свабоду 27 чэрвеня. Аднак у мінулым годзе Жук была адной з удзельніц студэнцкіх акцый пратэсту, за што таксама атрымала восем сутак арышту. Дзяўчына дайшла да Вярхоўнага суда, спрабуючы абскардзіць гэтае рашэнне, аднак безвынікова. Вярхоўны суд не знайшоў падстаў, каб адмяніць рашэнне суда ніжэйшай інстанцыі.

Дык ці выйдзе Глафіра Жук на свабоду пасля 30 сутак арышту?

*– Дакладна не вядома,* – каменціруе адвакат. *– Можа выйсці, а можа і не. Магчыма, ёй давядзецца адразу адбыць яшчэ тыя дадатковыя восем сутак. Пакінуць яе за кратамі альбо не – гэта будзе залежаць у тым ліку і ад напаўнення ізалятара.*



Уявіце, што гэта прыгажуня ўжо каторы дзень пакутуе за кратамі...

*Паўплываць на гэта рашэнне ніяк нельга. Ад жадання Глафіры адсядзець гэтыя суткі цяпер альбо пазней таксама нічога не залежыць. Хаця тэрмін выканання рашэння суда – год з моманту яго вынясення. Цалкам магчыма, што яна выйдзе толькі на пачатку наступнага месяца…*

**Марына КОКТЫШ.**

ЗАЛАТЫЯ СЛОВЫ

*Прачытайце, калі ласка, гэты верш сваім дарослым дзецям!*

## Кропля пяшчоты…

Што чалавеку старэнькаму трэба?
Позірк ласкавы. Лустачка хлеба –
Лепей, каб мякіш, а не скарынка.
Пагаварыць з кімсьці хоць бы хвілінку.
Супчыку міска. Кропля пяшчоты.
Нам жа таксама спатрэбяцца потым
Словы спагады, добрыя вочы.
Старасць не радасць,
Ды ўсе ў яе крочым…

**Лёля БАГДАНОВІЧ.**

*г.Барысаў.*

АФІЦЫЙНА

## Ці будзе парад?

*Чаму няма ніякай інфармацыі пра падрыхтоўку да парада? Ці ў гэтым годзе на Дзень Незалежнасці парада не будзе?*

**Васіль РЫЖЫКАЎ, Мінск.**

Вось які адказ на гэтае пытанне дае тэлеграм-канал Міністэрства абароны са спасылкай на кіраўніка прэс-службы **Ігара Грэмяшкевіча:** *«Інфармацыі пра рашэнне аб правядзенні парада 3 ліпеня 2021 года нам пакуль не паступала. Таму падрыхтоўка да парада пакуль не вядзецца».*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Куды сёлета можна паляцець на адпачынак?

*На пачатку мінулага года набыла для сябе і дзяцей пуцёўку ў Туніс, але з-за пандэміі так нікуды і не паляцелі. Турыстычная кампанія захавала грошы на дэпазіце, і ў гэтым годзе можна было рэалізаваць нашу мару…*

*Але зноў адпачынак, як кажуць, завіс у паветры. З-за інцыдэнту з самалётам авіякампаніі Ryanair, які ляцеў з Афін у Вільнюс, але прызямліўся ў Мінску, многія краіны закрылі для беларускіх самалётаў сваю паветраную прастору, а таму мы не ведаем, ці ўбачым мора і сёлета.*

*Дык куды ўсё-такі можна адправіцца на адпачынак гэтым летам? Што кажуць турыстычныя эксперты?*

**Святлана КРАЎЧАНКА, г.Маладзечна.**



Паводле слоў старшыні Рэспубліканскага саюза турыстычных арганізацый **Руслана Сегенюка**, зараз беларускі турыстычны рынак і на самай справе перажывае няпростыя дні, але з чарговымі выклікамі ён як быццам справіўся.

*– Сумесна з авіякампаніяй «Белавія» былі прыняты рашэнні на павелічэнні чартарных перавозак у Турцыю і Егіпет,* – кажа Руслан Сегенюк. *– Захаваліся пералёты на мінімум чатыры масавыя турыстычныя накірункі – у Турцыю, Егіпет, Грузію і Аб'яднаныя Арабскія Эміраты.*

*Большасць турыстаў усведамляюць, што віны тураператараў або турагентаў у сітуацыі, якая склалася, няма.*

*Прыблізна 70 працэнтаў турыстаў пераносяць свой адпачынак на адкрытыя напрамкі, каля 25 працэнтаў чакаюць адкрыцця прыпыненых напрамкаў, і ўсяго каля 5 працэнтаў памянялі планы і адмовіліся ад адпачынку.*

Эксперт лічыць, што гэтым летам, хутчэй за ўсё, Турцыя стане лідарам па адпраўленых з Беларусі турыстах. А ў намінацыі «Прарыў сезона» можна назваць ААЭ і Грузію – рэйсы туды цалкам запаўняюцца.

Дарэчы, Міністэрства аховы здароўя днямі паведаміла, што з пераліку краін, па вяртанні з якіх патрабуецца 10-дзённая ізаляцыя, выключаны Паўночная Македонія, Сан-Марына, Манака, Арменія, Боснія і Герцагавіна, Славакія, Балгарыя, Малдова і Сербія.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

РЕЗОНАНС

# Когда слово – оружие

Прочитал в газете «Народная Воля» за 4 июля 2021 года материал кандидата исторических наук **Игоря Кузнецова** о том, что **Андреем Муковозчиком** задеты его честь, достоинство и деловая репутация. И что эта история, оказывается, тянется еще с 2019 года и не видно ей конца.

Муковозчик называет Игоря Кузнецова лжеисториком, очернителем нашей истории и кляузником, который продолжает загаживать мозги нашим студентам. «И он всё еще доцент БГУ?» – вопрошает Муковозчик.

Прежде всего, нужно не забывать, что Муковозчик опирается на идеологию нынешней власти и чувствует свою безнаказанность. Я знаком с материалами о репрессиях историка Игоря Кузнецова. Они правдивые, и факты сталинских репрессий не все еще раскрыты. Всё это также описано в книге Александра Солженицына «Архипелаг ГУЛАГ». Вот что пишет Солженицын в своей книге: *«Что мог – я сделал. В неполноте пусть меня не винят: конца дополнениям здесь нет, и каждый чуть-чуть касающийся или размышляющий всегда добавит новые факты террора большевиков».* Историк Игорь Кузнецов и занимается этим нужным делом – продолжает писать эту книгу истории для народа.

Откуда такая злоба у Муковозчика? Родословную его мы не знаем, возможно, предки были причастны к осуществлению сталинских репрессий. Возможно, он нанят нынешней властью, чтобы очернить человека.

Можно предположить, что эта злоба биоэнергетического свойства, на генетическом уровне унаследованная от предков.

Испокон веков люди старались не бросать свои слова на ветер, ибо верили в особую их энергетику. Словом можно воодушевить и оскорбить, возвысить и унизить, улучшить и ухудшить настроение человека. Достаточно кому-то произнести злую или оскорбительную реплику, как сразу же электризуется атмосфера, чахнут добро и милосердие, произрастают семена нравственного и правового нигилизма.

В таких условиях перерождается сама человеческая душа – она становится злой и агрессивной. Полагаю, что так произошло с Муковозчиком.

Можно верить или не верить, но именно словом совершалось проклятие и навлекалась порча, вызывалась нечистая сила. Слова и речь издавна использовались как носители энергии биополя созидательного или разрушительного характера. Если внутри человека смутно, нечисто, злобно, жадно, скверно, мелко, то нельзя ожидать от него и доброго, сочувственного, просто благородного слова.

Почему же сегодня мы дошли до того, что ученый-историк Игорь Кузнецов не может защитить свое доброе имя от этого Муковозчика?

В любом обществе во все века к кляузнику применялись общественные санкции – от простого порицания и словесного осуждения (как у нас это было в советское время).

Считаю, что, вероятно, пришло время пересмотреть статью «Клевета» Уголовного кодекса и ужесточить меры к клеветникам, ибо они разжигают вражду между людьми, приводят общество к конфликтам, что способствует нарушению общественного порядка.

Вот почему честный человек должен быть взят под особую защиту государства. И мы надеемся, что так и будет.

А Игорю Кузнецову – самые лучшие пожелания!

**Александр ЗАРЕНОК.**

*г.Калинковичи.*

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Встретился ли Игорь Кузнецов с Игорем Луцким?



Как сообщала «Народная Воля», Игорь Кузнецов пытался попасть на прием к заместителю главы Администрации президента **Игорю Луцкому**, чтобы выяснить, почему государственная газета фактически объявила ему войну.

Он отправил электронное обращение с просьбой записать его на прием к чиновнику – в ответ на информацию из Администрации президента о том, что глава Администрации **Игорь Сергеенко** будет проводить выездной прием граждан в регионах. Кузнецов не понял, почему его не могут записать на прием и почему он должен вылавливать Сергеенко для разговора где-то по регионам. Однако на свое обращение по поводу приема у **Игоря Луцкого** известный историк вообще не получил никакого ответа.

*– Я еще раз посмотрел на их сайте порядок – они должны известить о решении в письменной виде, но я ничего так и не получил: ни отказа, ни подтверждения,* – сказал Игорь Кузнецов «Народной Воле». *– А второй раз я решил не обращаться. Может быть, какой-то технический момент случился – я же отправлял им письмо на тот электронный адрес, с которого получил ответ на свое обращение по поводу приема у Игоря Сергеенко.*

*На следующей неделе я планирую подать заявление в прокуратуру Советского района с просьбой дать правовую оценку по факту распространения клеветнической информации в мой адрес со страниц государственной газеты. Пусть разбираются.*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.

КРУПНЫЙ ПЛАН

# Вопрос прав человека всегда будет на повестке дня

*Об этом заявил Джо Байден на пресс-конференции.*



*«Я сказал Путину, что не могу сохранить доверие своего народа, если не буду отстаивать права человека»*, – пояснил президент США.

По словам Байдена, он заявил президенту России, что *«необходимо иметь базовые правила, которые нужно выполнять»*. По его словам, тон встречи, которая продолжалась почти четыре часа, *«был позитивным»* и там не было *«взрывной атмосферы»*.

В числе основных тем переговоров Байден назвал:

кибербезопасность: президент США дал России список из 16 стратегических объектов, которые не могут подвергаться нападениям;

права человека: речь шла о преследовании оппозиции, в том числе о ситуации с Навальным, и о важности работы свободных СМИ. Президент Америки также упомянул об ограничении работы «Радио Свобода» (признано в России иностранным агентом);

стратегическая стабильность: стороны договорились начать взаимный диалог по вопросам ограничения на оружие;

безопасность Украины: говорили о необходимости соблюдать Минские соглашения;

Беларусь: Байден выразил озабоченность в связи с ситуацией в стране.

ЗАКУЛИСЬЕ

## Байден подарил Путину очки

Путин подарил Байдену письменный набор хохломы «Москва», а Байден Путину – солнечные очки модели «авиатор», сделанные по спецзаказу. Байден фанат этих очков и много раз попадал в кадр в таких очках разных оттенков.

На этом подарки не закончились. Путину досталась еще и хрустальная статуэтка американского бизона – *«одного из самых величественных млекопитающих нашей страны и символа силы, единства и стойкости»*, отметили в Белом доме.




ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

# Беларуская тэма на саміце ў Жэневе: залішнія надзеі адных і марныя перасцярогі другіх

Напярэдадні жэнеўскага саміту ў медыя было шмат разваг пра тое, што Байдэн з Пуціным могуць дамовіцца, заключыць гістарычную дамову, ажыццявіць геапалітычны размен, часткай якога стане Беларусь. Аднак, мяркую, гэта аказалася немагчымым.

У некаторых медыя былі нават спробы акрэсліць асноўныя параметры геапалітычнага размену паміж Вашынгтонам і Масквой. Маўляў, ЗША не будуць пярэчыць кантролю Расіі над Беларуссю (бо перашкодзіць гэтаму ў Вашынгтона амаль няма магчымасцяў) пры ўмове, што Пуцін вырашыць «праблему Лукашэнкі». Узамен Расія «дазваляе» дрэйф Украіны ў заходнім кірунку.

Гіпотэза прыгожая, але, на маю думку, даволі абстрактная і мала270рэальная. І на тое існуе шмат прычын.

1. Найперш таму, што падчас адносна кароткіх перамоў бакам трэба было абмеркаваць шмат пытанняў. Прычым не толькі праблем двухбаковых адносін, але і крызісных ачагоў у розных рэгіёнах свету. Беларускае пытанне – толькі адно з шэрагу. Проста магло не хапіць часу, каб дэталёва яго абмеркаваць.

2. Хоць беларускі афіцыёз спрабуе пераканаць, што менавіта Злучаныя Штаты арганізавалі тут «каляровую рэвалюцыю», насамрэч Беларусь – зусім не прыярытэт у замежнай палітыцы ЗША. Яна не стварае непасрэдных праблем амерыканскім інтарэсам, каб надаваць ёй надта шмат увагі.

3. Вельмі важны чыннік расійска-амерыканскіх адносін – гэта адсутнасць даверу. Любая дамоўленасць грунтуецца на тым, што бакі будуць выконваць яе. Нічога падобнага цяпер няма. Ступень канфрантацыі сёння паміж імі такая вялікая, што адбываецца эскалацыя супрацьстаяння. ЗША ўводзяць усё новыя санкцыі супраць Масквы. Адзінае, пра што маглі дамовіцца прэзідэнты, – гэта пра рамкі, у межах якіх павінен праходзіць канфлікт, пра «чырвоныя лініі», якія нельга пераступаць.

4. Пазіцыя Расіі грунтуецца на тым, што постсавецкая прастора – гэта расійская сфера ўплыву, у якую ЗША не павінны ўлазіць. А ўжо Беларусь для Крамля – асаблівая дзялянка, таму Пуцін так рашуча абараняе Лукашэнку. Для Пуціна непрымальная сітуацыя, калі аўтарытарны лідар сыходзіць пад ціскам народнага пратэсту. Бо ён прымярае падобную сітуацыю на сябе.

5. ЗША ў прынцыпе не прымаюць канцэпт «сферы ўплыву». Пуцін пасля Крыма настойліва прапаноўваў Вашынгтону аднавіць ялцінска-патсдамскую сістэму, паводле якой вялікія краіны пасля другой сусветнай вайны дзялілі свет на такія сферы кантролю. Але цяпер Злучаныя Штаты лічаць, што гэтая канцэпцыя састарэла, не адпавядае новай рэальнасці, нават невялікія краіны імкнуцца мець сваю суб'ектнасць і маюць на гэта права. Таму Вашынгтон супраць таго, каб пагадзіцца перадаць Беларусь у расійскую сферу ўплыву. Невыпадкова афіцыйныя амерыканскія асобы настойліва падкрэсліваюць, што выступаюць за ўмацаванне суверэнітэту Беларусі.

6. А ці здольны быў бы Пуцін у прынцыпе вырашыць «беларускае пытанне», нават калі б ён пра гэта дамовіўся з Байдэнам? Той кароткі перыяд (жнівень-верасень 2020 года), калі расійскі прэзідэнт сапраўды мог паспрыяць сыходу Лукашэнкі, даўно прайшоў. Тое, што Пуціну нібыта дастаткова захацець і ён скіне Лукашэнку, – гэта міф, які распаўсюджваецца расійскімі экспертамі. Насамрэч крамлёўскі кіраўнік не змог абараніць газпрамаўскі банк на тэрыторыі Беларусі ад рэйдарскага захопу, не мог дамагчыся вызвалення вагнераўцаў, пакуль не змянілася сітуацыя. Цяпер не можа выдрапаць з беларускай турмы расійскую грамадзянку Софʼю Сапегу, затрыманую разам з Раманам Пратасевічам.

Адзінае, што магло адбыцца па беларускім кейсе падчас саміту ў Жэневе, – гэта абмен думкамі, пазіцыямі, магчыма, перасцярогамі. Таму, мяркую, вялікія надзеі адных, як і вялікія перасцярогі другіх, – дарэмныя.

НА ВЫХОД!

## Албания: президента просят уйти

*Парламент Албании проголосовал за отставку президента республики **Илира Меты**. Импичмент инициировал лидер социалистов и действующий премьер-министр **Эди Рама**.*

Рама и его сторонники обвинили главу государства в открытой поддержке оппозиции в канун прошедших в апреле парламентских выборов, что, по их мнению, нарушает Конституцию. И это не единственная их претензия.

*«Илир Мета растоптал Конституцию Республики Албания, разрушил институт гаранта национального единства,* – заявил депутатам Эди Рама. – *Он пересек этическую границу разделения властей в нашей парламентской демократии. Илир Мета опозорил Албанию и албанский народ через особые связи с Соединенными Штатами Америки. Этот человек испортил репутацию Албании перед лицом международного демократического сообщества»*.

Противоречия между президентом и Эди Рамой обострились в канун состоявшихся в апреле парламентских выборов, когда были зафиксированы нарушения и столкновения сторонников разных партий. Мета публично критиковал Раму, обвиняя его в злоупотреблении административным ресурсом и давлении на избирателей. Социалисты, получив парламентское большинство, вскоре поставили вопрос о недоверии президенту.

Окончательную судьбу Илира Меты должен решить Конституционный суд. Сам президент уже назвал импичмент незаконным.

ПОЗИЦИЯ

## Эстония прекращает финансирование русскоязычных школ

*Эстония с 2035 года прекратит финансирование русскоязычных школ из государственного или местного бюджетов. Об этом рассказала премьер **Кая Каллас** в эфире программы на «Радио 4».*

Она объяснила, что такой подход предусматривает программа развития эстонского языка: к 2035 году обучение должно происходить, как правило, на эстонском. Программа была инициирована еще предыдущим правительством и получила утверждение парламента. Одна из ее целей – чтобы все жители Эстонии *«владели эстонским языком и ценили владение другими языками»*.

Премьер отметила, что благодаря школьному образованию на эстонском языке дети интегрируются в эстонскую культуру и систему ценностей и получают равные возможности для получения высшего образования, участия в общественной жизни и поиска работы.

*«Образование преимущественно на эстонском означает, что возможны и другие учреждения с другим языком обучения... Ни у кого нет цели каким-то образом ущемлять русскоязычную общину. Знание своих корней и родного языка – всё это останется. Детсады и школы с обучением на русском языке будут и после 2035 года, но уже не будут финансироваться из государственного или местного бюджетов»*, – отметила Кая Каллас.

В ФОКУСЕ

## Николя Саркози отрицает нарушения в финансировании его избирательной кампании

*Бывший президент Франции **Николя Саркози** заявил на суде по обвинению в незаконном финансировании его неудачной предвыборной кампании 2012 года, что не совершал противоправных действий.*



Саркози заявил, что он не участвовал ни в логистике своей кампании во время баллотирования на второй президентский срок, ни в том, как тратились деньги во время подготовки к выборам.

*«Я намеревался совершить мошенничество, поступить неправомерно? Был ли я неосторожным? Небрежным? Мой ответ на все это наиболее формален: «Нет». С того момента, как мне сказали, что всё в порядке, у меня не было причин больше размышлять над этим»*, – сказал бывший президент Франции в суде.

66-летний Саркози пояснил, что он отвечал за политическое направление своей кампании, но не за организацию митингов, изготовление агитационных материалов и оплату счетов.

Суд над экс-президентом начался в марте, но в первый же день было принято решение отложить слушания из-за того, что адвокат Саркози заболел коронавирусом. Слушания возобновились в мае.

Прокуратура утверждает, что консервативная партия Саркози почти вдвое превысила сумму в 22,5 миллиона евро, разрешенных законом о выборах, потратив эти деньги на предвыборные митинги, а потом наняла дружественное агентство по связям с общественностью, чтобы скрыть эти расходы.

В своем обвинительном заключении прокуратура признала, что их расследование не смогло доказать, что Саркози организовал или причастен к этой схеме, но, вероятно, он знал об этом.

Ранее в этом году Саркози был **приговорен** к одному году заключения и двухлетнему условному наказанию за коррупцию. Он обжаловал этот приговор.

САЛІДАРНАСЦЬ

## Кіраўнікі дыпламатычных місій ЕС сустрэліся са сваякамі беларускіх палітвязняў

*На сёння ў Беларусі налічваецца 493 палітвязні.*

Днямі кіраўнікі дыпламатычных місій Еўрапейскага Саюза сустрэліся з блізкімі беларускіх палітвязняў, каб выказаць поўную салідарнасць і сваё суперажыванне.

*«Мы заклікаем усе сем'і палітвязняў не губляць надзеі і выказваем ім падтрымку з боку ЕС. Мы глыбока ўражаны мужнасцю і годнасцю ўсіх незаконна затрыманых і падзяляем іх чаканне моманту, калі свабода і справядлівасць пераможуць у Беларусі»*, – гаворыцца ў паведамленні.



БИЗНЕС

# Николай МАРТЫНОВ: «Беларуси нужны перемены»

*Так считает директор кожевенно-обувного холдинга «Марко» Николай Мартынов.*




### О коронавирусе и своей смерти

Весной минувшего года появилась новость о том, что Николай Мартынов умер от коронавируса. Потом выяснилось, что, к счастью, он все-таки жив.

*«Я действительно болел, и болел тяжело*, – говорит Мартынов. – *Кто-то просто опередил события, которые должны произойти лет через 40–50».*

Мартынов не стал разбираться, кто запустил утку о его смерти.

*«Да, я был в тяжелейшем состоянии*, – признается он. – *Были два критических дня, когда я на самом деле был между жизнью и смертью. Но будем считать, что новость о моей смерти – это недоразумение...»*

### О бизнесе

Белорусский бизнес нуждается в доступных кредитных ресурсах, считает генеральный директор «Марко».

*«Нужны более демократичные и доступные кредитные ресурсы без оборотных денег. Потому что сегодня за счет инфляции и курсовой разницы многие предприятия свои оборотные деньги, так скажем, проели»*, – сказал Мартынов в эфире **smartpress.by.**

### О политике

Мартынов был членом Совета Республики, сейчас он один из членов официальной конституционной комиссии.

Николай Мартынов считает, что в целом Беларуси нужны перемены: *«Я думаю, что за перемены все: от власти до работников какого-либо производства. Перемены нужны, и Конституция под них тоже модернизируется. Перемены нужны в отношениях между государством и гражданами».*

По его словам, свои предложения должна внести также *«правильная оппозиция»*, а *«не те, которые нам с улицы диктуют, насильственные». «Нужно садиться за «круглые столы» и обсуждать*, – сказал гендиректор «Марко». – *Есть здравые мысли и в оппозиции – их нужно учитывать. Оппозиция подталкивает власть к каким-то действиям. Как говорится, на то и щука, чтобы карась не дремал! Но оппозиция должна быть разумная, конструктивная. И власть должна выполнять пожелания граждан. Иногда глаз замыливается, и тот, кто что-то делает, не видит своих ошибок».*

Мартынов рассказал, что конституционная комиссия собирается два раза в месяц, и, по его словам, на собраниях всегда присутствуют около 100% участников за исключением тех, кто находится в командировке: *«Все члены комиссии приезжают и очень активно вносят предложения от своих регионов, и потом эти вопросы мы обсуждаем. Работа идет очень серьезная. Думаю, в начале следующего года проект Конституции будет вынесен на референдум. Думаю, многие граждане, партии и общественные объединения найдут в новом проекте Конституции свои предложения».*

### О санкциях

Кожевенно-обувной холдинг «Марко» в связи с санкциями потерял примерно 1,5 процента, но все потери будут восполнены за счет более плотной работы с российскими производителями.

*«Частично санкции стимулируют глубже развивать свое производство*, – говорит Мартынов. – *И нормально, если локализация будет доходить до 85 процентов. Я думаю, что вместе с Россией мы этого добьемся. И тогда у нас не будет никаких сбоев в поставках».*

Мартынов отмечает, что поставками в Россию «Марко» перекроет такие полностью недоступные или почти закрывшиеся для компании направления, как Канада, Израиль, страны Балтии. Мартынов добавил, что холдинг сейчас занимается локализацией с ориентацией на белорусских и российских поставщиков: *«Более 90 процентов сырья – это Россия или Беларусь».*

Кстати, холдинг «Марко» получил доступ к госзакупкам в России. До пандемии такой возможности фактически не было.

*«Россия теперь немного по-другому смотрит на белорусских производителей*, – объясняет Мартынов. – *Теперь мы свободнее можем участвовать в госзакупках – это серьезная подвижка в отношениях».*

Он отметил, что холдинг сейчас участвует в госзакупках на спецобувь правительства Москвы: *«Сейчас мы занимаемся медицинской темой. Обеспечением той же спецодеждой, которая должна быть у каждого сотрудника медучреждений».*

### О свободе выбора и хорошей зарплате

Хорошая зарплата для работника лучше, чем соцпакет, считает генеральный директор кожевенно-обувного холдинга «Марко» Николай Мартынов.

*«Да, у нас есть собственный спортзал, в который могут ходить работники, та же баня, но я считаю, что это (не всё конечно, но часть) – пережитки прошлого*, – говорит гендиректор «Марко». – *Лучше хорошая зарплата, а человек сам решит, куда ее потратить. Не совсем правильно навязывать, куда человек должен пойти и чем заниматься после работы».*

Мартынов отмечает, что 8 часов сотрудник должен выполнять обязательные технологические процессы на работе, а остальное время проводить так, как сам того хочет. *«Кто-то занимается самообразованием, кто-то саморазвитием, кто-то любит активный отдых, кто-то пассивный. Выбор должен быть за работником».*

З ЗАЛЫ СУДА

# Ці дапаможа лідару музычнага гурта Наважылаву віцэ-губернатар Салтыкоў-Шчадрын?

*У Гомелі судзяць лідара метал-гурта Gods tower **Уладзіслава Наважылава**. Ён назваў чыноўніка «крайне глупым боровом».*

Гісторыя гэта мінулагодняя, жнівеньская, калі градус палітычнага жыцця ў гарадах і мястэчках рэзка пайшоў угару з прычыны фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. На вуліцы выйшлі тысячы выбаршчыкаў з пытаннямі: «Дзе нашы галасы?», «Хто даў права збіваць мірных людзей?». У Гомелі пыталіся яшчэ: «Хто вінаваты ў смерці Аляксандра Віхора?»

На YouTube ў тыя дні з'явіўся відэаролік пад назвай «Гамяльчане сустракаюцца з уладамі горада. На пытанні адказвае губернатар вобласці Генадзь Салавей». Пад відэаролікам вакаліст Наважылаў (творчы псеўданім Lesley Knife) і змясціў пост пра «глупого борова». Былі там допісы і больш ярышстыя, але безасабовыя. А тут прозвішча «Салавей» ды яшчэ з указальным займеннікам «гэты».

Следства расцаніла пост як *«публічную абразу прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў»* – артыкул 369 Крымінальнага кодэкса. Справу ў Цэнтральным судзе Гомеля разглядае суддзя **Сяргей Карманові**ч, а дзяржаўнае абвінавачанне падтрымлівае прадстаўніца пракуратуры **Таццяна Гаркуша.**

### «Быў на ўзводзе»

На судовым пасяджэнні, якое адбылося днямі, Уладзіслаў Наважылаў віну прызнаў часткова. Патлумачыў, што ён сапраўды 16 жніўня 2020 года праз мабільны тэлефон праглядаў на YouTube відэаролік з Гомеля, а потым размясціў пад ім каментарый в пяці слоў, але не меў на мэце кагосьці абразіць, не меў на ўвазе канкрэтнага чалавека.

– *Калі мяне выклікалі ў СК і сказалі, што я абразіў Салаўя, я хвілін сорак не мог уцяміць, пра каго ідзе гаворка. Падумаў – пра расійскага тэлевядоўцу Салаўёва. Я напісаў каментар і забыўся на яго*, – казаў на судзе франтмен музычнага гурта.

У мінулым жніўні, як выказаўся Уладзіслаў, ён *«быў на ўзводзе»*: тры дні не маглі працаваць, паколькі адключылі інтэрнэт, улады бяздзейнічалі, не было рэакцыі на смерць маладога гамяльчаніна Аляксандра Віхора. Паводле слоў Наважылава, ён пакінуў каментарый пасля прагляду відэароліка пра сустрэчу "губернатара" Салаўя з пратэстоўцамі на прыступках аблвыканкама, бо той нібыта не выканаў свае абавязкі, не даў зразумелага адказу на хвалюючыя пытанні.

– *Вы лічыце, што нядача адказу з'яўляецца невыкананнем абавязкаў?* – пыталася дзяржабвінаваўца Гаркуша.

– *Так*, – адказаў Уладзіслаў.

### Абагульнены вобраз... з прозвішчам

На допыце ў судзе ў Наважылава пыталіся: калі ён не меўся нікога абразіць, то чаму напісаў канкрэтнае прозвішча «Салавей» і да яго – не вельмі прыгожае вызначэнне.

– *Я не задумваўся над прозвішчам, «боров» для мяне – вобраз чыноўніка паводле расійскага пісьменніка Салтыкова-Шчадрына* (які, дарэчы, быў віцэ-губернатарам Цвярской губерні. – **Аўт**). *Я чытаў яго. Гэта абагульнены вобраз. Салтыкоўскія чыноўнікі ў Расіі адказваюць беспрадметна. Нікога абражаць не збіраўся, даваў ацэнку сітуацыі, а не чалавеку. Усе словы літаратурныя. Пакінуў каментарый, каб выпусціць пару*,– тлумачыў абвінавачаны музыкант.

Наважылаў нават запэўніў, што *«калі сваім пастом прынёс (Салаўю) пакуты, то гатовы выбачыцца»*. Чаму да суда гэтага не зрабіў? Бо не ўяўляе, якім чынам гэта можна было зрабіць.

На судовае разбіральніцтва старшыня аблвыканкама **Генадзь Салавей** не прыйшоў, спаслаўшыся на занятасць, і пісьмова папрасіў разглядаць справу без яго прысутнасці.

Дзяржабвінаваўца Гаркуша падчас судовых спрэчак заявіла, што віна Уладзіслава Наважылава ў публічнай абразе прадстаўніка ўлады даказана матэрыяламі справы і знайшла пацвярджэнне ў ходзе судовага следства. Яна прапанавала пакараць музыканта трыма гадамі абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу – на так званую «хімію».

Вырак суда мае быць абвешчаны 21 чэрвеня.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# Пасля эйфарыі

*Гісторыя аб тым, як гродзенскі рабочы **Сяргей Домрачаў** пражыў амаль год пасля мінулых выбараў, пратэстаў і забастовак.*

### «Што б ні адбывалася, а працаваць трэба...»

Сяргей Домрачаў пасля заканчэння профільнага вучылішча працаваў на гродзенскім прадпрыемстве "Хімвалакно" ў цэху ўпакоўкі гатовай прадукцыі. У жніўні мінулага года падчас першых акцый, калі на заводзе збіраліся рабочыя і зачытвалі патрабаванні аб новых выбарах, як і многія іншыя, быў у поўнай эйфарыі. І да заклікаў распачаць забастоўкі паставіўся сур'ёзна. Праўда, хутка расчараваўся, бо астатнія рабочыя з яго цэха забастоўку не падтрымалі.

Згадвае, як прыйшоў 12 жніўня раніцай на змену і не стаў пераапранацца, паколькі было аб'яўлена, што працоўныя прадпрыемства далучаюцца да забастоўкі, пакуль не сыдзе Лукашэнка, не вызваляць усіх затрыманых і не будуць праведзены паўторныя прэзідэнцкія выбары. Аднак усе астатнія яго калегі, як ні ў чым не бывала, пайшлі на свае працоўныя месцы.

– *Я тады быў здзіўлены, пытаўся ў людзей, чаму яны так робяць. Нагадваў, што нашы патрабаванні не выканалі*, – гаворыць Сяргей. – *А мне адказвалі, апусціўшы вочы: а што мы, а хто пойдзе працаваць?.. А начальнік змены наўпрост заявіла: маўляў, ну і што, што забастоўка, а працаваць трэба. Начальнік цэха таксама мяне выслухала, з усім быццам бы пагаджалася, але сказала, што, маўляў, спыніць працу мы не можам. У мяне тады ўсё змяшалася ў галаве, бо на наступны дзень тыя ж мае начальнікі і калегі прыходзілі ў цэнтр горада на мітынг, трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі, а ніякіх рашучых дзеянняў на працоўным месцы не прадпрымалі. Атрымліваецца, што яны папросту забалбаталі народ...*

У наступныя змены Сяргей ізноў адзін з цэха не прыступаў да працы. У суседнім цэху забаставалі некалькі рабочых, але літаральна на наступны дзень яны вярнуліся на працоўныя месцы. Сітуацыя ўскладнялася арыштамі, збіццём мірных дэманстрантаў і запалохваннем насельніцтва. А Сяргея запрасіла да сябе начальнік цэха і сказала, што паколькі ў яго ўжо некалькі прагулаў, то давядзецца нейкім чынам *«дакументальна афарміць адносіны»*.


– *Звольніліі мяне па пагадненні бакоў*, – кажа Сяргей. – *Начальніца цэха так і сказала: больш мы нічога не можам зрабіць, маўляў, сам разумееш...*

### «А чаму вы звольніліся ў жніўні?»

Пэўны час Сяргей быў без працы, але верыў, што вось-вось у краіне адбудуцца змены і ён зможа вярнуцца на роднае прадпрыемства. Узгадвае: большасць тады знаходзілася ў такой жа эйфарыі, і многія не далучаліся да забастоўкі, бо былі перакананы, што хутка ўсё зменіцца.

Але нічога не адбывалася. Грошы заканчваліся. Сям'я Домрачавых, у якой дачка-шасцікласніца, жыве ў інтэрнаце, за камунальныя паслугі плаціць амаль 100 рублёў.

Сяргей ад Цэнтра занятасці пайшоў на двухмесячныя курсы і набыў спецыяльнасць аператара кацельні. Яшчэ падчас навучання яго запрасілі на зімовы перыяд працаваць на новай спецыяльнасці у гродзенскі аэрапорт.

– *Прайшоў усе праверкі, аформіў працоўны дакументаў. У пятніцу падпісаў кантракт, а ў нядзелю мяне затрымалі на акцыі, прысвечанай памяці Рамана Бандарэнкі*, – распавядае Сяргей. – *І ў першы працоўны дзень я не змог з'явіцца ў кацельню, бо адбываў суткі.*

На працы яго ўжо шукалі. Натацый не чыталі, але... Маўляў, ты сам усё разумееш, у нас рэжымны аб'ект...

Сітуацыя пагаршалася, а працы гродзенец усё не мог знайсці.

– *І вось: «На чыгуначным вакзале патрэбны аператар кацельні, вельмі патрэбны, прыходзьце!»*, – эмацыйна перадае размову Сяргей. – *А потым глядзяць маю працоўную кніжку: «О, так вы, напэўна, «палітычны», што звольніліся ў жніўні?» Два тыдні думалі і нарэшце адмовілі.*

У Цэнтры занятасці Сяргею прапанавалі працу на мэблевай фабрыцы. Згадвае: было вельмі падазрона, што там ніхто наогул не цікавіўся, калі ён звольніўся, чаму і якой палітычнай пазіцыі прытрымліваецца. Неўзабаве высветлілася, што на фабрыцы вялікая цякучка кадраў, адміністрацыя набірае людзей, а вось заробкі выплачвае нясвоечасова.

– *Я потым зайшоў у інтэрнэт, пачытаў, што людзі пішуць пра кіраўніцтва прадпрыемства. Адпрацаваў месяц – грошай не плацяць. Сам напісаў заяву*, – сумна ўсміхаецца мой суразмоўца.

Ізноў пошукі працы, а ўжо і няма чым плаціць за інтэрнат. Не без дапамогі знаёмых Домрачаў уладкаваўся ў «Спецаўтагаспадарку» рабочым па вывазе смецця.

– *Там таксама рабочыя патрэбны, але падчас афармлення дакументаў пільны ідэолаг раптам пацікавіўся: а чаму вы ў жніўні пакінулі працу на «Хімвалакне»?*

Але ўсё ж такі ўзялі. Зімой даводзілася вельмі складана: кантэйнерныя пляцоўкі былі завалены снегам, кантэйнеры са смеццем давялося з вялікімі цяжкасцямі выцягваць адтуль. Праўда, ужо ў лютым Сяргея перавялі працаваць у кацельню.

### 15 рублёў дапамогі ад прафкама

Заробкі ў САГ аказаліся невысокія. Паводле слоў Сяргея, ён атрымлівае на рукі 500 рублёў. Для сям'і грошы зусім невялікія. Быў час, што прыхварэў, доктар выпісала лекаў амаль на 100 рублёў. Калегі на працы падказалі: звярніся па дапамогу ў прафкам.

Там выслухалі і запатрабавалі, каб прынёс рэцэпты. Сяргей тлумачыў, што зараз для большасці лекаў рэцэпт не выпісваюць, але і слухаць не сталі. Адзін рэцэпт усё ж быў, але ў прафкаме сказалі, што трэба спачатку купіць прэпараты, прынесці рахунак, а потым будзе дапамога.

– *Лекі на рэцэпце каштавалі 36 рублёў, а ў прафкаме мне выпісалі дапамогу на 15*, – распавядае Сяргей. – *Пасля гэтага я напісаў заяву на выхад з гэтай арганізацыі.*

Са слоў Сяргея, яго доўга ўпрошвалі гэтага не рабіць, потым прысарамацілі: маўляў, атрымаў 15 рублёў дапамогі, а цяпер сыходзіш. Але дыскутаваць ён не стаў, а з прафсаюза выйшаў.

– *Нічога не мяняецца, жыць усё складаней, кошты растуць. даводзіцца шукаць новую працу, праўда, пакуль нідзе не бяруць*, – з сумам падсумоўвае Сяргей дадае: – *Веры ўжо няма ні ўва што...*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На фота: Сяргей Домрачаў.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# «TUT.BY никуда не исчезнет»

## Марина Золотова дала первое интервью из СИЗО.

*Почти месяц главный редактор TUT.BY Марина Золотова находится за решеткой. Ее и еще 14 человек, связанных с компанией, обвиняют в уклонении от уплаты налогов и соучастии в преступлении. Вся информация по делу скрывается. Адвокатам, с которых взяли подписку о неразглашении, запретили даже говорить, по какой статье предъявлены обвинения. Из писем Марины Золотовой удалось узнать, ожидала ли она, что за ней придут, в каких условиях находится в СИЗО и что думает про разгром TUT.BY.*




– *Первые три дня после задержания на Окрестина я была одна в камере и первую ночь спала на матрасе,* – вспоминает Марина события месячной давности. – *Потом матрас забрали «на прожарку» и обратно уже не отдали. Было холодно. Порадовалась, что взяла из дома шерстяное пальто. Спала в нем на голой шконке. Но всё равно нужно было вставать ночью, делать упражнения, чтобы согреться. В день, когда родственники передали передачу в ИВС, мне ее не отдали. Кто-то из коридора крикнул: «Золотова, ваш муж передал вам передачу, я ее не отдам». Я спросила почему. Мне ответили: «Потому что ваша шарашкина контора уже написала, что передачу не приняли».*

Утром 20 мая родственники сотрудников TUT.BY принесли передачу в ИВС на Окрестина. Как позже выяснилось, подозреваемых в это время увезли на допрос в ДФР. Так что передачи приняли только со второго раза, отдали позже и по частям.

На следующий день Марину Золотову и еще несколько коллег перевезли в СИЗО на улице Володарского, некоторых фигурантов отправили под стражу в СИЗО КГБ. Из 15 человек только трое находятся не за решеткой – под домашним арестом, с запретом на определенные действия.

Марина отмечает, что в СИЗО на Володарского отношение персонала к подстражным более гуманное, чем в ИВС, где работают *«более грубые люди»*.

– *Первое, что я подумала, когда мы сюда попали, что моя бабушка во время оккупации сидела вот тут в подвале на Володарке,* – говорит наша коллега. – *И когда нас ведут на прогулку по сводчатому подвалу, я вспоминаю ее рассказы и думаю: не тот ли это подвал? Она чудом избежала смерти, ее должны были расстрелять. Потом ее угнали в плен. Но она вернулась домой, и мы вернемся. Самое тяжелое – отсутствие информации, связи с родными людьми. Сын без меня отметил 15-летие, а дочь провела без меня выпускной и будет поступать в университет.*

Камера, говорит Марина, похожа на купе поезда, но на втором ярусе можно стоять во весь рост и делать зарядку.

– *Только наш поезд стоит в центре Минска. С 6 до 22 часов практически каждый день играет радио, но новостей не слышно совсем. Спим, едим, читаем, пишем, выходим (то есть выводят) на прогулку в крошечный дворик – там тоже делаем зарядку, играем в крокодила или слова. По понедельникам ходим в душ. По утрам в камеру светит солнце. Если забыть про решетку, а думать только про «реснички»* (специальное ограждение в тюремных камерах. – **Прим. TUT.BY**), *можно представить, что находишься внутри какого-то итальянского жилища, где на весь день закрывают окна от солнца. Заново учусь писать от руки и жить без Google. Пошла по следам Борисевич* (журналистка TUT.BY Катерина Борисевич почти пять месяцев провела на Володарке. – **Прим.TUT.BY**)*: кажется, читаю всё то, что она читала. А вчера вот выучила «Дай, Джим, на счастье лапу мне» Есенина. В нашем «итальянском дворике» еще есть черный кот. Говорят, его зовут Миша. По утрам слышно пение птиц, а еще часто кричат чайки.*

### Знала ли Марина, что за ней придут, что будет разгромлен TUT.BY?

– *Я понимала, что репрессии продолжаются и рано или поздно коснутся нас, но то, что сразу задержат так много людей и одновременно заблокируют сайт, я представить себе не могла. Я допускала, что сразу может быть заблокирован ресурс. К этому всё шло, в том числе соответствующие законы.*

Главный редактор говорит, что до задержания представители власти напрямую к ней не обращались «с напутствиями».

– *Но я допускаю, что такие обращения могли быть к руководству компании,* – отмечает она.

### Какие будут последствия для страны после разгрома самого крупного онлайн-медиа?

– *Мне сложно оценить последствия для страны, так как, находясь в СИЗО, я не знаю всей картины,* – говорит главный редактор. – *Но TUT.BY никуда не денется. Нынешняя ситуация для меня – временное явление. Разгром делает еще более очевидным, что идет тотальная зачистка информационного пространства. Для властей наш ресурс – кость в горле. Но то, что TUT.BY заблокирован, не означает, что все пойдут смотреть БТ. TUT.BY – это три миллиона пользователей. По решению власти три миллиона человек остались без своего любимого источника информации. Речь идет не только о новостях, но и о необходимых людям сервисах вроде «Афиши» или «Финансов». Предполагаю, что люди возмущены тем, что нет TUT.BY. Но TUT.BY на самом деле есть, потому что мой коллектив продолжает работать в социальных сетях, за что я им безмерно благодарна. Я знала, что с нашей командой не может быть по-другому. Поэтому TUT.BY никуда не исчезнет, будет как в песне: «Плывуць у тумане стагоддзі, і сталь спарахнее ўшчэнт. А мы тут былі і тут будзем, пакуль існуе гэты свет». Я по-прежнему уверена, что справедливость рано или поздно восторжествует, но репрессии затронут еще много людей.*

ЗАКУЛІССЕ

# «На тое мелася вялікае жаданне кіраўніцтва»

## *Салістка Нацыянальнага тэатра оперы і балета **Наталля Акініна** звольнілася з тэатра.*



*«Я ўжо не загадчыца трупы оперы і не салістка Вялікага тэатра Беларусі. Я не звольнена, як Сільчукоў, Галанаў і музыканты нашага аркестра. Сышла па згодзе бакоў»*, – паведаміла спявачка.

Пры гэтым, як падкрэслівае Акініна, на тое было вялікае жаданне кіраўніцтва тэатра.

Наталля Акініна – вядомая оперная спявачка. Скончыла Мінскае музычнае вучылішча і Акадэмію музыкі. Працавала салісткай музычнай капэлы «Санорус», з 2005 года – у Оперным.

Як патлумачылі крыніцы «Нашай Нівы», раней у Акінінай быў доўгатэрміновы кантракт спявачкі, разлічаны на некалькі гадоў. Год таму яе папрасілі стаць загадчыцай опернай трупы. Яна пагадзілася, працавала там на стаўку, адначасова салісткай – на паўстаўкі.

Нядаўна Акінінай не прадоўжылі кантракт як загадчыцы трупы. А як салістцы замест доўгатэрміновага кантракта ёй прапанавалі бестэрміновую дамову на палову стаўкі. Гэта дае магчымасць працей звольніць яе. Акініна адмовілася і сышла.

Спявачка пацвердзіла гэтую інфармацыю.

*«Заставацца ў цяперашніх умовах нават дзеля музыкі і спеваў я палічыла немагчымым для сябе. Даказваць гэтым людзям сваю прафесійнасць як чалавека і спявачкі для мяне непрымальна».*

У прэс-службе Опернага тэатра адмовіліся ад каментарыяў.

Гэта не першы сыход зорак Опернага за апошні час. Восенню 2020 года з тэатра былі звольнены дырыжоры **Андрэй Галанаў**, спявак **Ілья Сільчукоў**, канцэртмайстар **Рэгіна Саркісава**, скрыпачка **Ала Джыган** і альтыстка **Аляксандра Пацёміна**. Гэта адбылося пасля акцыі «Вольнага хору», што прайшла перад пачаткам аднаго са спектакляў.

Пасля заканчэння гэтага сезона ў тэатры не застанецца і народны артыст Беларусі **Уладзімір Пятроў**, які – гэтаксама як Сільчукоў – удзельнічаў у запісе зваротаў супраць гвалту.

Тэатр звольніў галоўнага дырыжора **Вячаслава Воліча** і не працягнуў кантакт спявачцы **Кацярыне Галаўлёвай**.

У кулуарах кажуць пра паслядоўнае звальненне салістаў ды супрацоўнікаў Опернага, якія выказвалі сваю пазіцыю.

Сыходы Пятрова і Акінінай адбыліся пасля таго, як у маі 2021-га дырэктарам тэатра стаў **Вячаслаў Гарбузаў**. Раней ён быў дырэктарам Брэсцкага тэатра драмы, пачынаў кар'еру ў БРСМ.

ТЫМ ЧАСАМ

# Оперная зорка Маргарыта Ляўчук – пад крымінальнай справай?

*Крымінальную справу за знявагу дзяржаўнага сцяга распачала Генпракуратура Беларусі. Падазраваная – вядомая оперная спявачка Маргарыта Ляўчук. Пра гэта яна напісала на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку».*

Як паведаміла прэс-служба Генпракуратуры, грамадзянка Л. 1990 года нараджэння, *«дзейнічаючы ў групе асоб, не пазней за 15 чэрвеня 2021 года з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі вырабіла відэазапіс са сцэнамі абразлівых і блюзнерскіх дзеянняў у дачыненні да дзяржаўнай сімволікі: Л. і неўстаноўленая асоба кінулі сцяг на зямлю, а затым змясцілі яго ў кантэйнер для смецця».*

Затым відэазапіс размясцілі на відэахостынгу YouTube. Дзеянні падазраванай кваліфікаваны паводле артыкула 370 КК (здзек з дзяржаўных сімвалаў). Санкцыя прадугледжвае грамадскія або папраўчыя работы, штраф, арышт або абмежаванне волі тэрмінам да аднаго года.

У прэс-рэлізе пракуратуры імя і прозвішча падазраванай не паказваюцца, але ініцыялы і дата нараджэння супадаюць з дадзенымі вядомай опернай спявачкі Маргарыты Ляўчук.

Маргарыта Ляўчук цяпер знаходзіцца па-за межамі Беларусі.



ФОТАФАКТ

# Ва Ушачах ўсталявалі помнікі Васілю Быкаву і Рыгору Барадуліну

## *Іх афіцыйнае адкрыццё адбудзецца сёння, у пятніцу, а 10-й гадзіне. Паводле слоў **Глеба Лабадзенкі**, які займаўся рэалізацыяй гэтага праекта, помнікі зроблены цалкам на народныя грошы.*




«Сотні прыхільнікаў нашых класікаў ахвяравалі больш за 11 тысяч долараў, каб гэтая справа здзейснілася, таму нізкі паклон кожнаму ахвярадаўцу, – *паведаміў Глеб Лабадзенка.* – Аўтары – скульптары **Ігар Засімовіч** і **Аляксей Сарокін**, архітэктар – **Віктар Карака**. Пастаменты з каласальнай зніжкай вырабіла заслаўская майстэрня «Гранітны свет» (шчыра дзякую кіраўніку **Андрэю Бакіноўскаму**), завёз пастаменты ва Ушачы сваім коштам спадар **Віктар Обух**.

Каб паставіць гэтыя помнікі, мне спатрэбілася два гады і жменя нерваў. Усё магло здзейсніцца і раней, калі б не бюракратыя.

Я не ведаю, ці запрашаць вас на афіцыйнае адкрыццё, якое адбудзецца ў пятніцу ў 10.00, і, напэўна, не паеду сам. Абсалютна зразумела, што так, як помнік Касцюшку, гэтыя помнікі цяпер не адкрыеш, таму проста прыязджайце зірнуць на іх, калі будзе час.

Я стаю цяпер, гляджу на гэтыя цудоўныя помнікі – і мне лёгка на душы, што гэтую справу ўдалося давесці да канца».

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЧУЛІ?

# У Мінск збіраецца прыехаць доктар Камароўскі

*Вядомы ўкраінскі доктар збіраецца напрыканцы верасня прачытаць у канцэртнай зале «Мінск» вялікую лекцыю «Уся праўда пра здаровае развіццё і харчаванне дзіцяці».*




Квіткі на лекцыю Яўгена Камароўскага каштуюць ад 30 да 120 рублёў.

Народная Воля http://www.nv-online.info
18 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.

ЕЎРА-2020

Вадзім ЖУК:

# «Зборнай Беларусі на гэтым першынстве рабіць пакуль няма чаго…»

*Ужо тыдзень у розных гарадах і краінах працягваецца чэмпіянат Еўропы па футболе.*







Як вядома, першынство павінна было адбыцца ў мінулым годзе, але праз пандэмію яго перанеслі. Зараз турнір упершыню ў гісторыі праходзіць у незвычайным фармаце – у 11 гарадах 10 краін.

Пакуль чэмпіянат толькі набірае абароты, асноўная барацьба наперадзе. Але ўжо зараз бачна, як ігракі ўсіх каманд перажываюць перад матчам, аддаюць усе сілы на полі, з якім патрыятызмам спяваюць гімн краіны.

*«Вось адзін эпізод, які куды больш важны, чым забітыя галы партугальца Раналду,* – адзначае футбольны агент **Валерый Ісаеў**. – *Зборная Венгрыі прайграла партугальцам – 0:3, але ў венгерскіх футбалістаў і балельшчыкаў была рука на сэрцы, і разам яны спявалі гімн. І не трэба ў такім выпадку фальшывіць з нагоды «мы гуляем для народа», бо футбол не падманеш».*

Так, свята не на нашай вуліцы, але сачыць за прыгожым футболам ніхто не забараняе.

– Фармат турніру, безумоўна, незвычайны, – *дзеліцца з «Народнай Воляй» сваім меркаваннем суддзя міжнароднай катэгорыі* ***Вадзім ЖУК***. – Але такое сёння жыццё, і такое рашэнне УЕФА. З аднаго боку, вырашылі папулярызаваць футбол у розных краінах, з другога – у свеце пандэмія, таму падчас спаборніцтваў прымаюцца меры бяспекі.

Магчыма, такому фармату і можна знайсці апраўданне, але гэта дадае некаторым камандам нязручнасцяў, а хтосьці атрымлівае бонусы. Напрыклад, на групавым этапе зборная Расіі праводзіць два матчы на дамашнім стадыёне ў Санкт-Пецярбургу, а каманда Турцыі прымала Італію… на «дамашнім» стадыёне ў Рыме.

Таму, на мой погляд, калі сітуацыя з каранавірусам у свеце нармалізуецца, трэба вяртацца да старога фармату і не вынаходзіць веласіпед.

**– За каго вы балееце на гэтым чэмпіянаце?**

– Вельмі спадабалася зборная Італіі. А вось немцы і іспанцы ў першых матчах не ўразілі, хаця не выключана, што будуць дадаваць па ходу першынства.

**– На гэты турнір магла патрапіць праз Лігу нацый і зборная Беларусі…**

– Няхай на мяне ніхто не крыўдуе, але зборнай Беларусі на форумах такога ўзроўню пакуль рабіць няма чаго. Наша каманда паказвае абсалютна невыразны футбол, і змагацца з тымі камандамі, што выступаюць на еўрапейскім першынстве, ёй не па сілах.

На гэты чэмпіянат праз Лігу нацыі патрапіла каманда Паўночнай Македоніі і першы матч прайграла аўстрыйцам 1:3. Але ж было бачна, з якім жаданнем і азартам гулялі македонцы!

А беларускія футбалісты няхай глядзяць турнір па тэлевізары і вучацца. Там ёсць чаму павучыцца…

**Алесь СІВЫ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# З кім згуляюць беларускія клубы?

*На гэтым тыдні сталі вядомы сапернікі беларускіх футбалістаў у еўракубках.*

Як вядома, у гэтым сезоне стартуе новы еўракубкавы турнір – Ліга канферэнцый УЕФА. Яго яшчэ інакш называюць спаборніцтвамі для «бедных».

У Лізе канферэнцый ад Беларусі будуць выступаць барысаўскі БАТЭ, брэсцкае «Дынама» і «Тарпеда-БелАЗ» з Жодзіна, і зараз сталі вядомы іх сапернікі.

У 2-м кваліфікацыйным раўндзе турніру БАТЭ згуляе з пераможцам пары «Дынама» (Батумі, Грузія) – «Трэ пене» (Сан-Марына), брэсцкае «Дынама» – з «Вікторыяй» (Пльзень, Чэхія), жодзінскае «Тарпеда-БелАЗ» – з «Капенгагенам» з Даніі.

Матчы гэтага раўнда пройдуць 22 і 29 ліпеня.

Таксама стала вядома, што чэмпіён Беларусі – салігорскі «Шахцёр» – у 1-м кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў сустрэнецца з балгарскім «Лудагорцам».

Першая гульня беларускага клуба пройдзе на выездзе 6/7 ліпеня, матч у адказ – 13/14 ліпеня.

Пераможца выйдзе ў 2-і кваліфікацыйны раўнд Лігі чэмпіёнаў (сустрэнецца з пераможцам пары «Шкендыя» (Македонія) – «Мура» (Славенія), а каманда, якая прайграе, працягне выступленне ў Лізе канферэнцый.

**Віктар ШПАК.**

ФУТБОЛЬНАЯ МАЗАІКА

## Каранавірус не спіць…

*Адміністрацыя Санкт-Пецярбурга, дзе праходзяць матчы чэмпіянату Еўропы па футболе, паведаміла аб узмацненні ў горадзе кранцінных мер.*

З 17 чэрвеня прыпынілі працу фуд-корты, дзіцячыя пакоі ў рэстаранах і кафэ, забараняецца правядзенне відовішчна-забаўляльных мерапрыемстваў на аб'ектах грамадскага харчавання.

Варта адзначыць, што фуд-корты на вакзалах, аўтазаправачных станцыях і ў аэрапортах будуць працягваць сваю працу.

На стадыёне ў Санкт-Пецярбургу запланаваны тры матчы групы «В», а таксама тры сустрэчы групы «Е». Тут пройдзе і адзін чвэрцьфінальны матч турніру.

## Прыляцеў не дзеля футбола

*Перад пачаткам матча паміж зборнымі Германіі і Францыі (1:0) адбыўся інцыдэнт, з-за якога давялося спыніць размінку.*



На поле нечакана прызямліўся парашутыст, што ўразіла ўсіх на стадыёне ў Баварыі. Ён праляцеў над медыятрыбунай і балельшчыкамі (некалькі чалавек, зачэпленыя ім, былі затым шпіталізаваны) і прызямліўся акурат на газоне, разбіўшы камеру-павука.

«Пасланцам нябёс» аказаўся актывіст арганізацыі «Грынпіс», які захацеў такім чынам прыцягнуць ўвагу да праблемы забруджвання навакольнага асяроддзя.

## Раналду б'е рэкорды

*Нападаючы і капітан зборнай Партугаліі Крышціяну Раналду пабіў рэкорд француза Мішэля Плаціні па колькасці галоў у фінальных стадыях чэмпіянатаў Еўропы.*



Нагадаем, што падчас гульні са зборнай Венгрыі Раналду забіў два мячы.

Таксама 36-гадовы футбаліст усталяваў яшчэ адзін рэкорд чэмпіянатаў Еўропы, у пяты раз згуляўшы ў фінальнай частцы турніру.

У складзе нацыянальнай каманды форвард выйграваў золата (2016 год, Францыя), серабро (2004, Партугалія) і бронзу (2012, Польшча/Украіна).

## Зубаты скандал

*Падчас матча зборных Германіі і Францыі абаронца немцаў Антоніа Рудзігер укусіў за спіну паўабаронцу французаў Поля Погбу.*



Пры гэтым іспанскі арбітр нават не паказаў Рудзігеру жоўтую картку, а пасля фінальнага свістка Рудзігер і Погба абняліся.

– *Нічога асаблівага не адбылося, ён мяне небалюча ўкусіў,* – сказаў Погба пасля матча.

Успомнім: на чэмпіянаце свету ў 2014 годзе нападаючы зборнай Уругвая Луіс Суарэс падчас гульні супраць каманды Італіі ўкусіў Джорджа К'яліні. Тады Суарэс быў дыскваліфікаваны на 9 матчаў зборнай, а таксама на чатыры месяцы ад любой футбольнай дзейнасці.

РАЗВІТАННЕ

# Бывайце, Леанід Кірэевіч…



З вёскі Пятрылава, што на Вілейшчыне, прыйшла сумная вестка: не стала пісьменніка, даўняга сябра «Народнай Волі» **Леаніда Левановіча**. Не стала ў самую летнюю пільніцу, калі і на агародзе, і ў садзе, і на пчалінай пасецы гэтак патрэбны мужчынскія ўмелыя рукі. А ў руках Леаніда Кірэевіча спорылася любая праца, не толькі тая, што за пісьмовым сталом. Хоць, пэўна ж, пальму першынства ён аддаваў менавіта ёй, радаснай і пакутнай адначасова. Пра што сведчыць цэлы стос выдадзеных кніг, вянцом якога сталі сем раманаў, якія сам пісьменнік з гонарам называў «Маё Сямікніжжа». І Вялікая Айчынная вайна, і чарнобыльская бяда, і станаўленне незалежнасці Беларусі – усё гэта па-майстэрску адлюстравана ў Левановічавых раманах, дзе заўсёды ў цэнтры – беларус, які змагаецца за свой гістарычны лёс.

Народжаны на Магілёўшчыне, Леанід Левановіч разам з жонкай Рагнедай пасяліўся ў прылясной заходнебеларускай вёсачцы, зрадніўся з мясцовым людам. Быў нястомным хадатаем па справах грамадскіх, напрыклад, шмат гадоў рупіўся, каб да суседняй вёскі Максімаўка быў пакладзены асфальт. «*Як жа так, у Максімаўцы нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі – аўтар знакамітай песні «Зорка Венера», а дарога туды – як пральная дошка»*, – даводзіў пісьменнік мясцовым уладам. Угаворваў, патрабаваў, нават мёдам частаваў.

А мёд у Левановіча быў незвычайны – і смаката, і лек, і лекцыя пра цэлыя стагоддзі беларускага пчалярства ў прыдачу. Пасекай ён займаўся самазабыўна. Пра пчол ведаў усё. Паходжваючы з дымаром паміж вуллёў, жартаваў, што пчолы любяць слухаць, як ён ім спявае беларускія песні, тады і мёду больш даюць.

У Пятрылава ведалі дарогу не толькі знаёмыя і сябры. Левановічава сядзіба стала месцам міжнародных літаратурных сустрэч. Шведскі Саюз пісьменнікаў нават прыслаў адмысловую падзячную грамату за гасцінны прыём.

А паэт Алесь Пісьмянкоў, аднойчы пагасцяваўшы ў Левановіча, прысвяціў яму верш, дзе ёсць такія радкі: «*Певень залопаў крыламі, / Лясныя будзячы нетры. / Рана ўстае Пятрылава – / Пятрылаву трэба петрыць*».

Цяжка вёсцы будзе «петрыць» без свайго па-сялянску практычнага, па-пісьменніцку мудрага знакамітага жыхара. Цяжэй будзе і ўсім нам без Левановічаўскага невычэрпнага аптымізму, якім ён падсілкоўваў і нас, супрацоўнікаў «Народнай Волі». Апошні званок Леаніда Кірэевіча ў рэдакцыю быў аб самым набалелым – *«калі ўжо газета зноў будзе друкавацца?»*.

Абавязкова будзе! І толькі бязмерна шкада, што на яе старонках больш не з'явіцца свежае, толькі з пісьмовага стала, дасціпнае і шчырабеларускае слова Леаніда Левановіча…

**Антон ЗАГОРСКІ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71**
**Рэкламны аддзел (017) 363-66-04**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Намеснік галоўнага рэдактара Марына Георгіеўна КОКТЫШ.**

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).